


Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

10 ЛІСТАПАДА 2000г. № 45/4077 КОШТ 105 РУБ.



### БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы! Аформіць падпіску на "ЛіМ" на першае паўгоддзе 2001 года можна ў любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — **600** рублёў, на тры — **1 800**, на паўгода — **3 600**. Кошт ведамаснай падпіскі на месяц — **1 560** рублёў, на тры — **4 680**, на паўгода — **9 360**.*

**Наш індэкс — 63856.**

**12 лістапада народнаму пісьменніку Беларусі, слыннаму драматургу Андрэю МАКАЁНКУ споўнілася б 80 гадоў.**

*Матэрыялы, прысвечаныя юбіляру, чытайце на стар. 6—7.*

*Фота Ул. КРУКА*



# КОЛА ДЗЁН

***Знакавым днём тыдня, калі гэтак льга сказаць, быў, напэўна, аўторак 7 лістапада. "День 7-го ноября — красный день календаря". Як ні дзіўна, але ў нас, на беларускім кавалачку постсавецкай прасторы, ён сапраўды застаўся чырвоным, святочным днём. Больш — анідзе. Нават у Расіі, у сталіцы якой Петраградзе ў лістападзе 1917-га адбыўся ўрадавы пераварот, перахрышчаны пазней у Вялікую сацыялістычную рэвалюцыю, сёння дзень 7 лістапада сціпла завецца днём прымірэння і згоды. А вось у нас... "83 гады назад узнікла дзяржава, якая ў найкароткі па гістарычных мерках тэрмін заняла вядучае месца ў свеце. Кастрычніцкая рэвалюцыя дала магчымасць беларускаму народу здабыць дзяржаўнасць, зберагчы і развіць нацыянальную культуру". "Мінула 83 гады з дня Кастрычніцкай рэвалюцыі. Яна стварыла вялікую Дзяржаву, якая, адлучыўшы ад жыцця народ, сама ж самым бяздарным чынам знішчыла, разбурыла, выракласяі прадала ўсё, што стваралася надрыўнай пякельнай працай і талентам людзей. Вялікай рэвалюцыя можа быць толькі тады, калі ўнутры яе здзяйсняюцца перамены, якія не вымагаюць ні крыві, ні злому, ні надрыву; калі вера, годнасць і правa чалавека ставяцца вышэй іншых перамог". Гэта надрукавана побач, на першай старонцы аднойз нашых так званых афіцыйных газет. Каму верыць? Як ва ўсім гэтым разабрацца "простаму чалавеку"? Такое ж наша й жыццё — заблытанае, пакручастае, у многім пазбаўленае здаровага сэнсу і выразнай перспектывы...***

***А ў ЗША тым днём выбіралі прэзідэнта...***

## МІНУСЫ ТЫДНЯ

Абыякавая да ўсяго статыстыка спакойна паведамляе: з пачатку года на Гомельшчыне нарадзілася трошачкі больш за II тысяч чалавек, а памерла — больш за 16 тысяч. Колькасць народжаных у параўнанні з леташнім годам зменшылася на 2 працэнты. Штодня ў вобласці нараджаецца 40 чалавек, а памірае — 59. Такая вось "арыфметыка". І ў астатніх пяці абласцях, на жаль, гэтыя сумныя суадносіны таксама мінусовыя. Міжволі ўзнікае сакраментальнае спрадвечнае пытанне: "І што ж гэта будзе, людцы добрыя?!"

## ПРАЦЭНТ ТЫДНЯ

Колькасць карыстальнікаў Інтэрнэтам у Карэі (Паўднёвай, вядома ж!) дасягнула 16,4 мільёна чалавек. Гэта прыкладна 35 працэнтаў ад усяго насельніцтва краіны. Цікава было б даведацца пра сітуацыю ў нас. Колькі нас, беларусаў, далучана да Інтэрнэта? Адзін, два, тры працэнты? Напэўна ж, не больш. Бо ў нас проста пазваніць у вёску ці з вёскі, якая знаходзіцца за нейкіх пяцьдзесят кіламетраў ад Мінска, усё яшчэ праблема, прытым часта — невырашальная...

## ПРЫТУЛАК ТЫДНЯ

У Баранавічах у рамках выканання прэзідэнцкай праграмы "Дзеці Беларусі" адкрыўся першы на Берасцейшчыне дзіцячы сацыяльны прытулак. Пад яго пераабсталяваны былы дзіцячы садок. Разлічаны ён на 35 дзяцей. Дзеці, якія засталіся без апекі бацькоў альбо трапілі ў якую-небудзь экстрэмальную сітуацыю, змогуць тут знайсці часовы прыстанак, дапамогу сацыяльнага педагога і ўсё неабходнае для жыцця. Неўзабаве такая ж дзіцячая ўстанова адчыніцца і ў Брэсце. Як гаворыцца, дзякуй Богу! Мо хоць такім чынам будзе ўратавана адна-другая дзіцячая душа...

## ФАКУЛЬТЭТ ТЫДНЯ

У Гродзенскім універсітэце імя Янкі Купалы створаны адзіны ў Беларусі факультэт псіхалогіі. Тут будуць рыхтаваць спецыялістаў па чатырох накірунках: псіхалогія сямейных адносін і сексалогіі, педагагічная псіхалогія, узроставая псіхалогія і, нарэшце, юрыдычная псіхалогія. Рэагаванне на гэтае паведамленне друку можа быць толькі адно: даўно пара! Дзеля таго, каб выжыць, застацца, а мо правільней будзе сказаць — стаць урэшце народам, усім нам вельмі патрэбна і псіхалагічная падтрымка...

## АЎТАМАТЫ ТЫДНЯ

Доследныя ўзоры аўтаматаў для ўліку часу і прыёму платы ад уладальнікаў аўтамабіляў на платных стаянках распрацаваны і выраблены інжынерным прадпрыемствам "Навуковае прыборабудаванне" НАН. Падрыхтавана і база для іх серыйнага выпуску. Неабходнасць у такіх аўтаматах — самая пільная. Аказваецца, да 70 працэнтаў сродкаў, якія сёння збіраюцца на платных аўтастаянках, у бюджэт краіны не трапляюць. Не дзіўна таму, што служкі гэтых аўтастаянак такія самаўпэўненыя, ганарлівыя, самаўпраўныя і нахабныя: ёсць для гэтага добрыя стымулы...

## РАЗБЕЖКА ТЫДНЯ

4 лістапада 1890 года ў Лондане прыняла пасажыраў першая ў свеце падземная электрычная дарога — метро. Сталася гэтак, што акурат у гэты ж самы дзень 4 лістапада, толькі праз 87 гадоў (у 1977 годзе), пачалося будаўніцтва першай чаргі метрапалітэна ў Мінску. Цікава, у якіх сферах жыцця гэтая разбежка ў часе між намі меншая? І на колькі?

## ГАТОЎНАСЦЬ ТЫДНЯ

АТ "Кіраўскі завод" у Санкт-Пецярбургу гатовы да зборкі аўтобусаў "МАЗ", пагадненне аб чым кіраўцы і мінскія аўтазаводцы падпісалі ў жніўні. Да канца года ў Паўночнай Пальміры будзе сабрана каля 20 беларускіх гарадскіх аўтобусаў. Мы, мінчукі, паспелі ўжо ацаніць іх па вартасці. Значыць, ёсць пастаўы парадавацца і за пецярбуржцаў, а заадно, вядома, і за саміх сябе.

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

"Наша дэмакратыя з самага пачатку была заснавана на мілітарызме, была звязана з так званай "трэцяй сілай", яна абавязана сваім прыходам да ўлады і вайскоўцам, і традыцыйнай расійскай любові да чалавека ў пагонах...

Тое, што цяпер робіцца відочным, публічным, заўсёды, прынамсі, са жніўня 1991 года было падмуркам улады Ельцына. Тая сіла, якую мы з часу прыходу Лебедзя ў КРА ў 1995 годзе называем "трэцяй", заўсёды была першай, яна заўсёды адсоўвала пры прыняцці сур'ёзных рашэнняў і дэмакратаў, і камуністаў. Нікол б Ельцын не змог бы зрабіць Пуціна сваім пераемнікам, калі б яготы ражым не абапіраўся перш за ўсё на сілавікоў. Усё астатняе было толькі справай выбарчых тэхналогій...

У дэмакратычным грамадстве прыходзіць да ўлады найбольш папулярная палітычная сіла, з якой звязвае свае надзеі асноўная частка насельніцтва. Так што, выбраўшы сваім пераемнікам Пуціна, выхадца з КДБ, Ельцын дзейнічаў як дэмакрат у тым сэнсе, што задавоіліў грамадскі запыт нашага пераходнага часу...

Сапраўдная дэмакратыя будзе магчыма толькі тады, калі мы вычарпаем выбарнае самадзяржаўе прэзідэнта, калі пяройдзем да парламенцкай рэспублікі".

Аляксандр ЦІПКО. "Ці страшныя генералы ва ўладзе?" ("Литературная газета", N 44 (5810), 1—7 ноября 2000 года).

СВЯТЫ

# "Бяларучы—як першая любоў..."

Салаўіная гара (яшчэ яе называлі Чаромхавай) кожную вясну патанала ў квецені. З-пад гары выцякалі тры крынічкі, якія зліваліся ў ручай. Вада аж бурліла, пераскокваючы праз камяні, і выкідвала шматкі белай пены. Адсюль і назва — Белы ручай, а па ім, у сваю чаргу, названа і вёска.

30 год вандравала сям'я Луцэвічаў па камяністай, узгорыстай Лагойшчыне. Менавіта ў Бяларуцкім народным вучылішчы экстэрнам займаўся Янка Купала. За зіму атрымаў пасведчанне аб заканчэнні. "Я ў той час болей ведаў, чым патрабавала праграма", — успамінаў пазней паэт. Яго ўразіў вонкавы выгляд установы: вялікія, у сем шыбак вокны, два ганкі, непадалёку дом для настаўнікаў і для далёкіх навучэнцаў. Самога Яся аднакласнікі характарызавалі як дасціпнага і дапытлівага хлопца, а родзічы расказвалі, што з кніжкай не расставаўся, яна заўжды была пры ім у торбачцы.





Пра ўсё гэта гаварылася на школьным свяце "Мы помнім твае Бяларучы, Іван Дамінікавіч". У спартыўнай зале (яна ж актавая) чынна паселі на лавах вучні, у асноўным — вучні пачатковых класаў. Старшакласнікі выступалі ў ролі вядучых і артыстаў: паказалі ўрыўкі з "Паўлінкі" і "Прымакоў". Адчувалася рука педагогаў, бо вучні вельмі някепска справіліся з задачай і "сарвалі" апладысменты.

Пра пасляваенную гісторыю школы расказвала Ніна Мікалаеўна Аляшкевіч, бібліятэкар па адукацыі. Яна не толькі сама вяла гурток аматараў паэзіі, але і ў дачкі выхавала пашану да роднага слова і беларускай літаратуры: Таіса Карэнда якраз і стала арганізатарам свята, прысвечанага 50-годдзю з дня надання школе імя Янкі Купалы. Настаўніца ўзначальвае і школьны купалаўскі музей, які абнавіў экспазіцыю два гады таму. На жаль, ніколі ўжо не наведае школу аўтар экспазіцыі Святлана Майхровіч...

У школьным летапісе ўсё занатавана: хто з пісьменнікаў прыязджаў у госці, хто прысутнічаў на яе адкрыцці, хто выкладаў і стварыў культурную традыцыю. Яўгенія Баранчык пачала тут працаваць у 55-ым. Імя Купалы з Бяларучамі тады мала хто звязваў, даводзілася шукаць копію пасведчання аб сканчэнні школы, збіраць успаміны сваякоў і равеснікаў паэта. Яўгенія Антонаўна і стала першым дырэктарам музейчыка. Перш ён размяшчаўся ў калідоры, потым выдзелілі асобны пакой.

Пра маладосць і гады настаўніцтва згадвалі В. Несцяровіч і В. Любішка. Кожны ў свой час звязаў жыццё з гэтай вёскай. "Бяларучы — як першая любоў, якую не забудзеш", — так хораша сказала ў сваім прачулым слове Валянціна Віктараўна, яна ж як прадстаўніца райана ўручыла Т. Карэндзе ганаровую грамату. А Віктар Несцяровіч, карэспандэнт райгазеты, прывёў малавядомы факт пра тое, што герой неўміручай Коласавай паэмы Ясько ("дарэктар"), выбіўшыся ў сапраўдныя настаўнікі, таксама адзін час тут вучыў дзяцей.

Дзіяна Кавалевіч, супрацоўніца Купалаўскага музея (а ён і дапамог выбрацца на раён нашай творчай брыгадзе), прыехала не пустымі рукамі — з метадычнай мастацкай літаратурай. Сама ж "брыгада" складалася з нас, лімаўцаў (Алесь Пісьмянкоў, Віктар Шніп і аўтар гэтых нататкаў), супрацоўнікаў газет "Раніца" і "Родны край", музейшчыкаў.

Хораша ўпісаўся ў сцэнарый школьнага свята верш Сяргея Панізніка. Ён завяршаў імпрэзу і быў, можна сказаць, яе сэнсавай кропкай:

***З якою ішлі б мы доляю.***
***Калі б не было — Купалавай?***

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

*На здымках: гаспадары і госці на ганку школы. Куточак школьнага музея.*

*Фота Андрэя ШАЎЦОВА*

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Пачатак сяброўству юных талентаў і іх настаўнікаў з Асіповіцкага раёна быў пакладзены яшчэ сёлетняй вясной у час Траецкага кірмашу, калі ў Мінск завітала група юных літаратараў.

Затым паследавала запрашэнне ў Саюз пісьменнікаў, і ў адказ на яго група літаратараў, у складзе якой былі Навум Гальпяровіч, Алесь Пісьмянкоў, Віталь Гарановіч, зрабілі паездку ў Асіповічы.

Вучні і настаўнікі раёна добра падрыхтаваліся да візіту гасцей. У мясцовым райана сабраліся вучні і настаўнікі з усіх школ раёна, якія ўвайшлі ў тут жа ўрачыста адкрытае літаратурнае аб'яднанне. Чыталі свае вершы, казалі пранікнёныя словы вучні Каця Кірычук, Віка Пятровіч, Ксеня Шаршановіч, Галіна Лойка, Ліля Налівайка, настаўнікі Станіслаў Лукашэвіч, Ніна Сакава, Рыма Захаркіна і іншыя. У гаворцы прыняў удзел і загадчык аддзела адукацыі І. І. Пузына.

У Асіповіцкім раёне сёння вялікая ўвага ўдзяляецца дзіцячай творчасці, выхаванню ў школьнікаў пачуцця патрыятызму. Унікальнай з'явай можна лічыць выпуск дзіцячай літаратурнай газеты "Дарагіня", якую руплівa рэдагуе настаўніца беларускай мовы і літаратуры Дараганаўскай санаторнай школы-інтэрната Жана Караленя.

Сустрэча з прадстаўнікамі Саюза пісьменнікаў стала яшчэ адным трывалым крокам шэфства творчай арганізацыі над юнымі талентамі. А наперадзе — новыя сустрэчы.

**Н. К.**

НОВАЕ

# Ёсць квартэт!

"Пра якія пошукі ў сферы камернай музыкі можна казаць, калі ў нас няма нават струннага квартэта, які б выконваў нашы новыя творы!" — так, ці прыкладна так, жаліцца беларуская кампазітары. І ўжо не першы год, і не першае дзесяцігоддзе... А было ж: актыўна развівалі нашы творцы жанр інструментальнага квартэта! І сталы выканаўчы склад быў: струнны квартэт Саюза кампазітараў БССР. Але час узяў сваё. Старыя музыкі адышлі. Пераемнікаў не з'явілася. Пэўна, таму, што музыканцкае жыццё зрабілася зусім нялёгкім — ці да энтузіязму!

Вось чаму як сапраўдны сюрпрыз успрымаецца стварэнне новага маладога калектыву — Мінскага струннага квартэта. Яго канцэрт-прэзентацыя адбудзецца сёння, 10 лістапада, у сталічным Доме дружбы.

Годам стварэння гэтага ансамбля лічыцца 1999-ы. Да гэтага часу яго ўдзельнікі, выпускнікі Беларускай акадэміі музыкі, мелі плённую практыку супольнага грання ў вядучых выканаўчых калектывах краіны і з іншаземнымі калегамі, апошнім часам запрашаліся для выступленняў у складзе вядомага германскага камернага аркестра "Ensemble Mondial" і менавіта ў Германіі атрымалі першае прызнанне як самастойная канцэртная суполка. Апроч гэтай краіны, маладых беларускіх музыкантаў ужо ведаюць і запрашаюць выступіць у Расіі, у Малдове.

Скрыпачы Юрый Герман ды Ігар Пятроў (ён лічыцца заснавальнікам Мінскага струннага квартэта), альтыст Уладзімір Хімарода, віяланчэліст Дзяніс Скляраў прытрымліваюцца класічных традыцый інструментальнага выканальніцтва. У свае праграмы ўключаюць таксама творы сучасных кампазітараў. А галоўнай задачай, апроч іншага, лічаць прапаганду музыкі беларускіх аўтараў.

Іх аб'ядноўвае імкненне аднавіць колішнія квартэтныя традыцыі ў Беларусі. Іх аб'ядноўвае мажлівасць супольнага квартэтнага грання — найвышэйшай ступені ансамблевага выканальніцтва, праз якое рэалізуецца творчы патэнцыял кожнай індывідуальнасці.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

***Тэма, вынесеная для абмеркавання за "круглым сталом", які адбыўся ў Саюзе беларускіх пісьменнікаў, заўсёды цікавіла творцаў і была вельмі важнай і надзённай, бо акурат з самага юнага ўзросту маленькія грамадзяне — дзеці — атрымліваюць урокі патрыятызму, любові да сваёй Бацькаўшчыны, да краіны, у якой яны прыйшлі ў свет і пазнаюць гэты свет. Урокі гэтыя дзеці бяруць найперш ад бацькоў, сваякоў, блізкіх і далёкіх суседзяў, аднак жа не ў апошнюю чаргу — і ў школе, з самых першых сваіх кніжак-чытанак, з першых, адрасаваных ім, газет і часопісаў. Слова патрыёт, паняцце патрыятызму — вельмі ёмкія, усеабдымныя. Без усведамлення, хто ты, на якой зямлі нарадзіўся і жывеш, хто твае бацькі і дзяды, адкуль бяруць пачатак карані твайго роду, да якога народа ты прыналежыш, чым гэты народ адметны і слаўны, — без усведамлення ўсяго гэтага чалавек будзе проста непаўнавартасны, ушчэрбны, і жыццё ягонае будзе непаўнацэнным, яно пройдзе пад знакам пакрыўджанасці лёсам.***

# Не пан сахі і касы, а — беларус!

## З "КРУГЛАГА СТАЛА" НА ТЭМУ "ПАТРЫЯТЫЧНАЕ ВЫХАВАННЕ І ДЗІЦЯЧАЯ ЛІТАРАТУРА"

Пра гэта, адкрываючы пасяджэнне "круглага стала", гаварыў намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў **Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**. Ён прывітаў усіх прысутных, падзякаваў пісьменнікам і прадстаўнікам іншых структур і арганізацый, якія так ці іначай працуюць з дзецьмі, што яны адгукнуліся на запрашэнне прыняць удзел у рабоце "круглага стала", і запрасіў іх да абмеркавання праблемы, якую паставіла на парадак дня само жыццё.

Пачаў гаворку намеснік міністра адукацыі РБ, доктар гістарычных навук **Алег СЛУКА**.

— Праблема патрыятычнага выхавання падрастаючага пакалення — гэта праблема дзяржаўнага значэння і маштабу, — адзначыў ён. — Выхаванне патрыятызму ў душах юных грамадзян нашай краіны — гэта, па сутнасці, вызначэнне, нават абранне Беларуссю свайго будучага шляху, курсу і зместу свайго дзяржаўнага развіцця ў XXI стагоддзі. Калі мы здолеем выхаваць сапраўднага грамадзяніна Беларусі, калі сумеем запачаткаваць у ім характар стваральніка і творцы ва ўмовах інфармацыйнай эпохі, — мы знойдзем сваё месца ў сусветным супольстве і, галоўнае, мы адбудуем нашу родную Беларусь, адродзім яе. Вынесеная на абмеркаванне праблема — надзвычай надзённая. У пытаннях патрыятычнага выхавання падрастаючага пакалення, якое будзе жыць і працаваць у трэцім тысячагоддзі, вельмі недапрацоўваем мы ўсе — і дзяржаўныя структуры, і Саюз пісьменнікаў, іншыя атрады творчай інтэлігенцыі, наогул уся наша грамадскасць. Мы больш гаворым аб патрыятызме, грамадзянскасці, больш дэкларуем усё гэта, і вельмі мала, недаравальна мала робім. А разбуральныя сілы — не дрэмлюць, вядуць сваю чорную справу. У сферы ідэалогіі пустот не бывае, на пасlabленне адной тут жа адказвае ўзмацненнем іншая. Мы ўжо сёння выразна бачым усю жахлівасць наступстваў гвалтоўнага насаджэння масавай культуры, у першую чаргу — бездухоўнасць у яе самых розных праявах і формах. А гэта ж той самы, па сутнасці, глабалізм, які аніяк не спрыяе нашай кволай маладой дэмакратыі, бо разбэшчвае, губіць душу праз распаўсюджванне алкагалізму, наркаманіі, СНІДу, іншых захворванняў, што не ведаюць ні дзяржаўных, ні нацыянальных, ні сацыяльных межаў. Нават Інтэрнэт і камп'ютэрныя гульні пакуль што прыносяць нам больш шкоды, чым карысці. Наш выхаваўчы працэс пасуе перад наступам усіх гэтых адмоўных, разбуральных з'яў. Адзіны, бадай, здаровы інтэлектуальны востраў у нас — гэта школа, дзе дзякуючы высілкам настаўнікаў у дзіцячых душах прарастаюць парасткі гэтага высокага і чыстага пачуцця — патрыятызму. На жаль, ужо ў сценах ВНУ сёння гэтыя кволыя парасткі часта вянуць і гінуць пад ціскам зусім іншых ідэалагічных накірункаў — напрыклад, прагматызму. Прагматызм, як з'ява ў філасофіі і грамадстве, вельмі шкодны, асабліва калі ён укараняецца на дзяржаўным узроўні. Вось толькі адзін красамоўны факт. За 9 месяцаў сёлетняга года з Беларусі выехала ў іншыя краіны свету каля 700 чалавек — пераважна маладых, высокаадукаваных людзей. Паехалі яны туды ў пошуку высокіх заробкаў, з надзеяй на гэтыя заробкі і на лепшае, у сэнсе — больш матэрыяльна забяспечанае жыццё. Чалавек хоча жыць лепш, багацей. Жаданне, так бы мовіць, натуральнае, цалкам зразумелае Але ж... Але ж, замахваючыся на такі крок, малады чалавек павінен быў бы задумацца і над тым, што ён гэтым самым абдзяляе сваю ўласную краіну, сваю Радзіму, Бацькаўшчыну, што гэта ж яна дала яму адукацыю і спадзявалася, што набытыя веды, свой высокі прафесіяналізм ён з карысцю для сябе і роднай краіны скарыстае тут. На жаль, не задумваюцца нашы маладыя людзі. На жаль, няма ў іх нацыянальнага стрыжня. І самае балючае, што гэта не віна, а бяда маладых людзей. Сёння ў нашай краіне 90 працэнтаў насельніцтва — бедныя людзі. А ці да патрыятызму беднаму чалавеку? І як можна выхаваць пачуццё патрыятызму ў беднага чалавека, які не бачыць перад сабою і сваімі дзецьмі светлай перспектывы?..

А. Слука, абмалёўваўшы сённяшнюю сітуацыю ў краіне, паразважаўшы аб усім негатыве, які склаўся ў сферы вынесенага на абмеркаванне пытання, у далейшым засяродзіў увагу прысутных на тым, што, на яго думку, з'яўляецца выйсцем са становішча. Ён сказаў:

— Выхад знаходзіцца там, дзе шукалі вялікія філосафы, асветнікі Беларусі — на шляху прапаганды і здзяйснення нацыянальнай ідэі. Нацыянальная ідэя — гэта аб'ектыўны шлях развіцця беларускага народа да свабоды і высокага дабрабыту. Яна, аднак, як мера толькі палітычнай барацьбы, даўно адышла ў нябыт. Сёння нацыянальная ідэя павінна ўкараняцца ў свядомасць людзей якраз у стваральным накірунку. Кожны чалавек павінен быць свабодным, як і дзяржава, кожны чалавек павінен быць шчаслівым і заможным. Менавіта нацыянальная ідэя павінна аб'ядноўваць нас усіх у імя будучыні, і тады яна будзе стваральнай. Час лозунгаў мінуў. Мы ўступілі ў інфармацыйную эпоху. Нам трэба зрабіць так, каб маладыя людзі пры адным толькі слове "Я — беларус!" — не мужык, пан сахі і касы, а — БЕЛАРУС! — падрасталі ад годнасці і гонару. І шкада, што ў нас ніхто гэтага не гаворыць, акрамя хіба адных пісьменнікаў. Публіцысты ўвогуле пра гэта не гавораць, публіцыстыкі ў нас у гэтым сэнсе папросту няма. А між тым, дзіця, якое нарадзілася, не можа пачуваць сябе беларусам, калі яму не гаварыць пра тое, што ён — беларус.

Пра здабыткі беларускай дзіцячай літаратуры гаварыла крытык, кандыдат філалагічных навук **Маргарыта ЯФІМАВА**. Яна не чытала спецыяльна падрыхтаванага з гэтага выпадку даклада. Яна проста згадвала лепшыя творы нашай дзіцячай літаратуры, з захапленнем і ўлюбёнасцю на памяць цытавала дзесяткі вершаваных строф і радкоў, называла імёны і творы, даводзячы ўдзельнікам "круглага стала" думку аб тым, што ў нас ёсць для выхавання святога пачуцця любові да Бацькаўшчыны ў юных душах найбагацейшы і найкаштоўнейшы, ды, на жаль, да гэтай пары незапатрабаваны скарб.

— Галоўны наш клопат, — гаварыла Маргарыта Барысаўна, — павінен быць аб тым, каб дзеці, як пісаў Уладзімір Ліпскі, "не страцілі веры, назеі, любові". Я дадала б сюды яшчэ — і дабрыні. Калі дзеці не страцяць гэтых пачуццяў, яны не страцяць, зберагуць галоўнае — сваю душу. З самага малога ўзросту дзяцей трэба вучыць любові і дабрыні, умення, здольнасці адгукацца на чужую бяду. Страшна, калі дзіцячая душа наскрозь будзе пранізана меркантылізмам, згаданым ужо тут прагматызмам. Праўду казаў Алег Георгіевіч. Патрыятызм, любоў да Бацькаўшчыны — гэта той маральны стрыжань, без якога няма чалавека, няма асобы. Гэта тая духоўная атмасфера, без якой наўрад ці адбудзецца, здзейсніцца чалавек. І ў стварэнні гэтай атмасферы надзвычай важная роля належыць мастацкаму слову, найперш — дзіцячай кнізе, бо пачатак усіх пачаткаў у чалавеку закладваецца ў маленстве.

На завяршэнне свайго выступлення М. Яфімава прапанавала стварыць у краіне Дом дзіцячай кнігі. Патрэба ў такой спецыялізаванай кнігарні, на думку прамоўцы, наспела даўно. Дагэтуль дзіцячая кніжка ў кнігарнях не займае таго месца, якое ёй належыць па праву ПЕРШАЙ кніжкі ў жыцці чалавека.

— Я нарадзілася на Лагойшчыне, — уключаецца ў гаворку галоўны спецыяліст Дзяржкамітэта па справах моладзі **Алена ГРУЗДЗЬ**. — У Лагойску ёсць цікавы і адметны музей — "Літаратурная Лагойшчына", у якім сабраны каштоўнейшыя матэрыялы пра пісьменнікаў, якія нарадзіліся, узгадаваліся ў нашым кутку Бацькаўшчыны, — ад Купалы, Бядулі, Родзевіча да Ніла Гілевіча, Івана Пташнікава, Міколы Гіля, Галіны Каржанеўскай і многіх іншых. Я чаму згадваю пра музей? Дзеля таго, каб падтрымаць, лішні раз сцвердзіць думку аб тым, што ў справе патрыятычнага, увогуле духоўнага выхавання падрастаючага пакалення вельмі дзейсны сродак — акурат мастацкае слова. Мы, паверце, пра гэта ніколі не забываем. Галоўная задача дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі — вырашэнне палітычных, эканамічных, духоўных праблем моладзі ў сучасных умовах. Гэтая задача стаіць такім чынам, каб выхаваць не проста грамадзяніна, а грамадзяніна-патрыёта, не проста спецыяліста, а спецыяліста-прафесіянала, не проста бацьку і маці, а — сем'яніна. Дзеля гэтага існуюць канкрэтныя напрацоўкі і накірункі, у ажыццяўленні якіх мы заўсёды разлічваем на вашу дапамогу. Усе прапановы, якія зыходзяць ад вас, ад Саюза пісьменнікаў, мы заўсёды падтрымліваем і рэалізуем. Вось, скажам, праводзіўся конкурс сярод школьнікаў на лепшы твор пра Вялікую Айчынную вайну — да 55-годдзя Перамогі. Дзяржкамітэт па справах моладзі актыўна падтрымаў ідэю конкурсу. Лепшыя творы яго ўдзельнікаў былі надрукаваны ў нашым часопісе "Першацвет". Праблемы выхавання моладзі, у тым ліку і патрыятычнага, не сыходзяць са старонак нашых выданняў — "Переходный возраст", "Чырвоная змена", "Знамя юности". У нас распрацаваны па гэтым пытанні канкрэтныя палажэнні аб правядзенні конкурсаў на лепшыя публіцыстычныя матэрыялы. Яшчэ раз хачу запэўніць, што мы заўсёды падтрымаем любыя пісьменніцкія ініцыятывы і высілкі, заўсёды будзем працаваць разам.

Пра цяжкасці на шляху дзіцячай кнігі да чытача гаварыў паэт і дырэктар выдавецтва "Юнацтва" **Алесь КАМАРОЎСКІ**. Цяжкасці гэтыя — рознага характару, найперш фінансавага. Беларускамоўная дзіцячая кніга датуецца дзяржавай на 75 працэнтаў, рускамоўная — на 50. Каб беларуская кніжка "апраўдала" сябе, трэба выпусціць яе тыражом не менш чым 3 тысячы экземпляраў. А збіраць заказы, забяспечыць гэты трохтысячны мінімальны тыраж ніхто сёння не рупіцца. Застаецца рабіць гэта самому аўтару, на што здатны далёка не кожны. Усё больш і больш даражэе папера, друкарскія выдаткі, у выніку даражэе і кніга, робіцца не па кішэні большасці бедных сёння бацькоў.

А. Камароўскі выказаў крыўду ў адрас аб'яднання "Белкніга". Сёння яно больш займаецца расійскай кнігай, чым беларускай. Зважаючы на тое, што ў Расіі кошт кніг ці не ў тры разы таннейшы, "Белкніга" перакуплівае расійскую кніжную прадукцыю, дадае свае надбаўкі і прадае, забяспечваючы сабе зусім нябеднае жыццё. Займацца рэкламай і распаўсюджваннем айчыннай кнігі аб'яднанню ўжо няма ні ахвоты, ні патрэбы.

Дырэктар "Юнацтва" паведаміў удзельнікам "круглага стала", якія кнігі гэтага плана мяркуецца выдаць у наступным годзе. Сярод іх — "Меч князя Вячкі" і "След ваўкалака" Л. Дайнекі, "Бяздоннае багацце" В. Ластоўскага, "Фрэскі" С. Тарасава і некаторыя іншыя.

— Патрыятызм нашых дзяцей прама прапарцыянальны таму, што мы ўкладваем у іх душы, — заўважыў галоўны рэдактар часопіса "Вясёлка" і старшыня Беларускага дзіцячага фонду **Уладзімір ЛІПСКІ**. — Ды сёння бяда ў тым, што нашы літаратурныя набыткі не трапляюць да дзяцей. Калісьці дзіцячыя часопісы і газеты ішлі ў кожную сям'ю, у якой былі дзеці, а сёння? Сёння яны трапляюць, на жаль, толькі ў рэдкія сем'і. Гэта цалкам непаважлівыя, нават абыякавыя адносіны дзяржавы да сваёй, да нашай будучыні — дзяцей. Але ж такія непаважлівыя, а мо й абыякавыя адносіны і да нас, пісьменнікаў, калі мець на ўвазе нашы мізэрныя ганарары, наогул наша матэрыяльнае становішча.

— Нядаўна я быў у Пружанах і Шарашове, — распавёў галоўны рэдактар часопіса "Бярозка" **Уладзімір ЯГОЎДЗІК**. — Дзеці, настаўнікі, бібліятэкары сустракалі нас, пісьменнікаў, як самых дарагіх гасцей. Ім патрэбны нашы творы, нашы кнігі, нашы выданні. Аднак жа іх практычна няма сёння ў школьных і сельскіх бібліятэках. Няма ні "Бярозкі", ні "Вясёлкі", ні "Раніцы", ні "Першацвета", ні "Зорькі". Няма, бо ў нашай дзяржавы няма грошай на культуру. А няма таму, што ў нас няма свайго, выгадаванага на ўласным нацыянальным карані чынавенства, якое б усведамляла сябе беларусамі і рупілася б пра развіццё нацыянальнай культуры, наогул духоўнасці, пра тое ж выхаванне ў дзяцей і падлеткаў патрыятычнага пачуцця. Гаварыць, разважаць мы ўсе ўмеем. А трэба найперш рабіць нешта рэальнае. Як выправіць становішча? Ды вельмі проста: хай тыя ж Міністэрства адукацыі ды Камітэт па справах моладзі рэальна парупяцца аб тым, каб нашы дзіцячыя выданні, у тым ліку і кнігі, трапілі літаральна ў кожную школу, у кожны дзіцячы дом, урэшце ў кожную сям'ю, дзе ёсць дзеці. І ў выніку й будзе вырашана праблема патрыятычнага выхавання падрастаючага пакалення.

Эмацыянальным было і выступленне пісьменніка-ветэрана **Алеся САВІЦКАГА**. Ён падтрымаў прапанову М. Яфімавай аб стварэнні Дома дзіцячай кнігі, дзе б апошняя была паўнаўладнай гаспадыняй: абураўся ганебнай практыкай, калі пісьменнік вымушаны сам збіраць заказы на сваю кнігу, каб забяспечыць ёй неабходны тыраж; з горыччу гаварыў аб тым, што пры падобным стаўленні да беларускай кнігі і яе творцаў беларушчына наўрад ці будзе мець нейкую перспектыву.

Паэт **Мікола ЧАРНЯЎСКІ** зрабіў папрок у адрас Беларускага тэлебачання, якое апошнім часам цалкам забылася на беларускую дзіцячую кнігу, заўважыўшы, што нашы пісьменнікі, у тым ліку і найперш дзіцячыя, зніклі з экранаў тэлевізараў. А ўсім жа вядома, падкрэсліў Мікалай Мікалаевіч, што тэлебачанне — гэта магутны, незаменны і універсальны сродак прапаганды і агітацыі, сродак выхавання, у тым ліку і патрыятычнага.

Гаворку падсумаваў **Н. ГАЛЬПЯРОВІЧ**, яшчэ раз падкрэсліўшы, што ўсе ўзнятыя праблемы не новыя, што вырашэнне іх наспела даўно, і таму час пераходзіць да іх канкрэтнага і рэальнага вырашэння, рабіць дзеля гэтага дзейсныя захады.

Удзельнікі "круглага стала" для выпраўлення становішча распрацавалі шэраг прапаноў і рэкамендацый і вырашылі неадкладна звярнуцца з імі ў адпаведныя дзяржаўныя структуры. Сярод гэтых прапаноў такія, у прыватнасці: прасіць Дзяржкамдрук, Міністэрства культуры і Дзяржкамітэт па справах моладзі ў самы бліжэйшы час адкрыць у Мінску і абласных цэнтрах Дамы дзіцячай кнігі, у якіх рэгулярна праводзіць выстаўкі і прэзентацыі новых кніг, творчыя і юбілейныя вечары пісьменнікаў, сустрэчы з чытачамі, наладжваць абмеркаванне рэдакцыйных і выдавецкіх планаў, рэцэнзаванне твораў юных талентаў; Камітэту па справах моладзі, Беларускаму дзіцячаму фонду, Беларускаму саюзу моладзі, Саюзу пісьменнікаў узяць шэфства над школамі-інтэрнатамі і дзіцячымі дамамі, каб спрыяць выхаванню дзяцей-сірот, выяўляць сярод іх таленты, працаваць з імі; прасіць Савет Міністраў надаць галоўным рэдактарам літаратурных часопісаў, іх намеснікам, дырэктарам і галоўным рэдактарам выдавецтваў статус дзяржаўных служачых; правесці ў 2001 годзе Дні дзіцячай літаратуры Беларусі ў Расіі і Дні рускай дзіцячай літаратуры ў Беларусі. На Беларускім тэлебачанні і радыё штомесячна ствараць перадачы аб навінках літаратуры для дзяцей і юнацтва з удзелам у іх аўтараў, крытыкаў, навукоўцаў, педагогаў, бацькоў і дзяцей-чытачоў; Дзяржкамітэту па справах моладзі, Саюзу пісьменнікаў і выдавецтву "Юнацтва" распрацаваць канцэпцыю і выдаваць серыю навукова-папулярных кніг, прысвечаных гісторыі і сучаснасці Беларусі; прасіць Савет Міністраў РБ устанавіць тры штогадовыя прэміі пад назваю "Сябар дзяцей" тым людзям, якія аддаюць свой талент і сэрца выхаванню падрастаючай змены; аблвыканкамам, гар- і райвыканкамам сумесна з Саюзам пісьменнікаў распрацаваць планы творчых сустрэч з пісьменнікамі ў працоўных калектывах, планы правядзення творчых вечароў пісьменнікаў-землякоў і г.д.

**М. МІХАЙЛАВА**

## “Каралева польскай прозы”



**Беларуская зямля дала жыццё многім вядомым польскім пісьменнікам, у шэрагу якіх адно з першых месц належыць Элізе Ажэшцы. Нездарма класік нашай літаратуры Францішак Багушэвіч назваў яе “каралевай польскай прозы і пакутлівай праўды”. Э. Ажэшка вылучаецца і тым, што ўсё сваё жыццё звязала з зямлёй маленства. Не пакідала Бацькаўшчыну, а чэрпала тут натхненне для сваіх твораў. Мастакоўская ж спадчына ў Э. Ажэшкі вялізная. Гэта — больш за пяцьдзесят тамоў прозы, уключаючы раманы, аповесці, апавяданні. А яшчэ дзесяць тамоў — перапіска з сябрамі-пісьменнікамі, перакладчыкамі, рэдактарамі і выдаўцамі. На жаль, як ні дзіўна, на сваёй роднай мове беларускі чытач з гэтым багаццем да нядаўняга часу быў амаль не знаёмы. За выключэннем асобных твораў, што з’яўляліся ў перыёдыцы ды кнігі “Выбранае”, якая пабачыла свет у выдавецтве “Мастацкая літаратура” ў 1975 годзе — тады творы Э. Ажэшкі пераўвасобілі па-беларусску Янка Брыль і Ядвіга Бяганская. Даводзілася задавальняцца рускамоўнымі перакладамі. І вось, нарэшце, дзякуючы “Беларускаму кнігазбору” зроблены захады па ліквідацыі такой несправядлівасці. Гэтая аўтарытэтная бібліятэка папоўнілася аднатомнікам Э. Ажэшкі. За выключэннем аповесці “Хам” і апавяданняў “Зімовым вечарам” і “Тадэвуш”, якія ўваходзілі ў кнігу “Выбранае”, астатнія творы па-беларуску друкуюцца ўпершыню. А папярэднічае ім уступны артыкул Валянціны Гапавай “Каралева жывога слова”, якая даўно даследуе творчасць Э. Ажэшкі і з’яўляецца аўтарам кнігі пра яе. З твораў жа Э. Ажэшкі ў томе першай стаіць аповесць “Нізіны”, у якой прасочваецца лёс парабчанкі Хрысціны і двух яе сыноў, а таксама сям’і яшчэ аднаго персанажа Ясюка. Напачатку пісьменніца мелася назваць гэты твор “Танная невялікая кніжка для люду”. І сапраўды аповесць пра тых (і для тых), хто жыве ў нястачы і галечы і каго ў тагачасным грамадстве многія не лічылі за людзей. А наколькі любіла Э. Ажэшка просты люд, яскрава сведчыць тое, што ў мастацкую канву твора яна ўключыла ўзоры вуснапаэтычнай творчасці беларускага народа. Прысутнічае ў “Нізінах” і жывая гутарковая беларуская мова, а ўсё гэта робіць аповесць яшчэ больш прывабнай у сэнсе раскрыцця свету сялянскага жыцця. Як і іншыя тагачасныя польскія пісьменнікі, Э. Ажэшка задумвалася аб гістарычным месцы народа ў свеце. Вынікам такога роздуму стала аповесць “Дзюрдзі” (рускамоўная назва “Ведьма”). А за вядзьмарку сяляне прынялі сваю аднавяскоўку Пятрусю, якая паводзінамі рэзка вылучалася сярод іх. Вясёлая, цудоўная пявуння, яна заўсёды вярталася дахаты з бярэмам пахучых траў і зёлак. Няйначай звязана з нячыстай сілай, палічылі ў вёсцы. І як вынік — забойства. Аповесць пачынаецца пралогам-судом, а завяршаецца эпілогам-судом. А ў гэтым прамежку — лёс братоў Дзюрдзі, якія і сталі на шлях забойства. Э. Ажэшка таксама выступае ў ролі свайго роду суддзі. І імкнецца быць як мага больш аб’ектыўнай. На думку В. Гапавай, з чым нельга не пагадзіцца, “паказваючы цемру, невуцтва, прымхі і забабоны, абумоўленыя гістарычным развіццём беларускай вёскі, пісьменніца разгледзела творчыя сілы народа, яго розум і дабрыню, “звонкай крыніцай” назвала Пятрусіны песні”. Дарэчы, вобраз Пятрусі — адзін з лепшых вобразаў жанчыны ў польскай літаратуры. Прывабным атрымаўся і галоўны герой аповесці “Хам” Павел Кабыцкі. Ён — сапраўдны народны характар, цесна знітаваны з роднай зямлёй. Ды і вадой, бо з’яўляецца нёманскім рыбаком. За прызнаннем: “Неба — мая хата, а рака — жонка” — увесь Кабыцкі. Ёсць магчымасць пазнаёміцца і з нарысамі “Людзі і кветкі над Нёманам”. Іх, а таксама аповесці “Нізіны” і "Дзюрдзі" пераклала Галіна Тычка. Апавяданні “Зімовым вечарам” і “Тадэвуш” — Янка Брыль. Аповесць “Хам” пераўвасоблена па-беларуску Я. Бяганскай. Пераклады зроблены пры падтрымцы Польскага літаратурнага фонду Міністэрства культуры Рэспублікі Польшча. Дапамогу ў выданні кнігі аказалі Польскі інстытут у Мінску і Саюз палякаў Беларусі. “Беларускі кнігазбор” мяркуе выдаць раман Э. Ажэшкі “Над Нёманам”, што стаў вяршыняй яе творчасці.**

**Юрась ВАЙСЁНАК**



# Каб людзі не журыліся

### ДА 80-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Андрэя МАКАЁНКА

Андрэй Макаёнак...

Толькі прамовіш гэтыя словы і адразу паўстаюць у памяці п’есы, увасобіць якія на сцэне некалькі дзесяткаў гадоў назад лічылі за гонар самыя вядомыя тэатральныя калектывы. І не толькі Беларусі, а і Масквы, Ленінграда, сталіц колішніх саюзных рэспублік. Ды і сягалі яны — смела, упэўнена, заваёўваючы нязменны поспех — у самую глыбінку. Без перабольшвання можна сказаць, што сваім А. Макаёнак лічыўся ў тэатрах ад Брэста да Уладзівастока: надараліся гады, калі ён “размаўляў” з гледачом адначасова больш як у ста спектаклях.

Гэта быў сапраўдны (і заслужаны!) трыумф тэатра А. Макаёнка. А тэатр А. Макаёнка — у шырокім разуменні — гераічная драма і трагікамедыя, сатырычная камедыя і вадэвіль. Творчасць жа яго, калі падыходзіць да яе ўсебакова, не толькі п’есы, а і фельетоны, гумарэскі, памфлеты, сцэнарыі мастацкіх фільмаў. А да ўсяго ён быў жыццялюбам, аптымістам: прамым, адкрытым, у нечым даверлівым, але ніколі не цярпеў фальшы і маны і заўсёды любіў шчырасць. Рэзаў праўду-матку ў вочы кожнаму, не зважаючы на пасады і званні.

Званні і ўзнагароды не абмінулі і яго самога. І павага была адпаведная. Самая галоўная адзнака творчай працы А. Макаёнка — прысваенне яму ў 1977 годзе звання народнага пісьменніка Беларусі. Ён і сапраўды быў народным. Народным яшчэ да прысваення гэтага звання, бо карыстаўся вялікай вядомасцю. Узнагароджваўся рознымі ордэнамі і медалямі, выбіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР, прымаў удзел у рабоце XX сесіі Генеральнай асамблеі ААН, з’яўляўся лаўрэатам Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы і Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа.

Здавалася, што наканавана яму доўгае жыццё. Але смерць заўсёды каварная, а ў дачыненні да дзеячаў літаратуры, мастацтва, культуры асабліва. Нярэдка падразае крылы чалавеку на ўзлёце. Часам, калі ён, дасягнуўшы многага, спачываць на лаўрах не збіраецца, жыве новымі творчымі справамі. Так надарылася і з А. Макаёнкам. Андрэй Ягоравіч памёр раптоўна 16 лістапада 1982 года, перад гэтым выпісаўшыся з бальніцы і збіраючыся дахаты...

Васемнаццаць гадоў няма з намі А. Макаёнка. Іншы час, іншыя людзі. Даўно няма і той краіны, у якой ён жыў і карыстаўся такім вялікім поспехам і аўтарытэтам. Даўно аспрэчваюцца ідэалы, у якія ён верыў і якія адстойваў. Даўнавата не ідуць у тэатрах спектаклі па яго п’есах. Усё гэта рэаліі, ад якіх нікуды не дзенешся. А калі і ёсць хоць якое суцяшэнне, дык у тым, што нішто на зямлі не вечна. Аднак прыняць душой падобнае можна толькі маючы на ўвазе грамадскія працэсы, якія ідуць і развіваюцца па сваіх законах. У дачыненні ж да забыцця А. Макаёнка тэатрамі суцяшэння няма і быць не можа. Бо гэта яшчэ адно пацвярджэнне нашай абыякавасці да таго, што было да нас. І яшчэ адно сведчанне, наколькі часам нездаровая творчая атмасфера ў асяродку тых жа тэатральных дзеячаў, пісьменнікаў. І пацвярджалася, як яны могуць есці поедам адзін аднаго, асабліва тых, каго няма ў жывых. Пры жыцці іх нярэдка і голас падаць баяліся, а цяпер выкарыстоўваюць сваё права каго замаўчаць, каго паставіць на сцэне, а каго і проста забыць.

Не хочацца далей весці гаворку на гэтай сумнай ноце, бо паслязаўтра, у нядзелю, свята — Андрэю Ягоравічу Макаёнку спаўняецца 80 гадоў. І ён па-ранейшаму з намі. Ён па-ранейшаму жывы. Дзякуючы сваім творам, дзякуючы сваім неўміручым персанажам. Такой бяды, што не ідуць сёння спектаклі па яго п’есах. Гэтую несправядлівасць лёгка кампенсаваць, калі ўзяць у рукі Збор твораў А. Макаёнка ў пяці тамах, што выйшаў у 1987—1990 гадах. Хоць у гэтым выйгрышны момант. Яшчэ б колькі гадоў прамаруджвання і выдавецтва “Мастацкая літаратура” не змагло б ажыццявіць гэты выпуск. А так, калі ласка, бяры ў рукі патрэбны том і знаёмся з тым ці іншым творам. Ды і перагортвай старонкі багатага жыццяпісу А. Макаёнка.

Родам Андрэй Ягоравіч з вёскі Борхаў цяперашняга Рагачоўскага раёна. Змалку валодаў задаткамі таленту: маляваў, займаўся лепкай з гліны, разьбой па дрэве. А да ўсяго прымаў актыўны ўдзел у школьнай мастацкай самадзейнасці. Артыстычныя здольнасці праявіліся ў тым, што лепш за ўсіх дэкламаваў байкі, гумарыстычныя вершы, а калі ўзнікала неабходнасць, імправізаваў забаўныя сцэнкі. Аднак, скончыўшы Журавіцкую сярэднюю школу, як і многія ў той час, вырашыў стаць афіцэрам і паступіў у ваеннае вучылішча. Праўда, хутка ўпэўніўся, што памыліўся, а таму і развітаўся з вучылішчам. Праз год паступаў у Маскоўскі інстытут кінематаграфіі. І хоць не быў прыняты, але звярнуў на сябе ўвагу строгіх экзаменатараў. Яны пахвалілі беларускага юнака і запэўнілі, што пры чарговым паступленні яго можа чакаць поспех.

Магчыма, А. Макаёнак і паступіў бы ў гэты інстытут, калі б у кастрычніку 1939 года яго не прызвалі ў армію, а яшчэ праз нейкія паўтара года не пачалася Вялікая Айчынная вайна. У раёне Феадосіі, прымаючы ўдзел у дэсанце, які прарываў блакаду Крыма, А. Макаёнак быў цяжка паранены — пашчапала абедзве нагі. У медсанбаце даведаўся пра суровы прысуд урачоў: ампутаваць! Пазней прызнаваўся: “Хлопец я быў гарачы — не згадзіўся!” Калі яго спрабавалі пакласці на аперацыйны стол, выхапіў для абароны трафейны пісталет.

Пашчасціла, што выпадкова на тэрыторыі, дзе знаходзіўся дэсант, зрабіў пасадку савецкі самалёт. На ім А. Макаёнка адправілі ў Краснадар, дзе ў вайсковым шпіталі перанёс некалькі аперацый. Калі праз чатыры месяцы раны загаіліся, прасіўся на фронт. Ды раны зноў адкрыліся. І зноў давялося змагацца за жыццё. І выкладаць ваенную справу ў Акаурцкай школе ў Грузіі.

Даведаўшыся аб вызваленні ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў родных мясцін, паспяшаўся дамоў. Працаваў ваенруком і сакратаром Журавіцкага райкама камсамола, пазней у Гродне — сакратаром гаркама камсамола, у Магілёве — загадчыкам парткабінета, памочнікам сакратара райкама партыі. Пасля паступіў у Рэспубліканскую партыйную школу пры ЦК КПБ, якую скончыў у 1949 годзе. Па размеркаванні трапіў у рэдакцыю часопіса “Вожык”, у якім да 1953 года загадваў аддзелам прозы. У 1966—1978 гадах з’яўляўся галоўным рэдактарам часопіса “Нёман”.

Падчас працы ў “Вожыку” талент Андрэя Ягоравіча раскрыўся сваімі першымі гранямі. “Вожыкаўская школа” спрыяла таму, што ён навучыўся знаходзіць сваіх герояў, адкрываць у жыцці такія калізіі і сітуацыі, якія дазваляюць, з аднаго боку, змагацца з недахопамі, а з другога — праз ачышчальны смех спрыяць аздараўленню грамадства. Працуючы ў “Вожыку”, ён зразумеў, наколькі важна ўмела суадносіць у творы элементы сатыры і гумару, каб не адбылося “перакосу”: “Смех — не самамэта, а выхаваўчы сродак. Нельга патураць гледачу, які смяецца з пальца, кукіша ці з таго, што персанаж паскроб паясніцу ці стукнуўся галавой аб вушак. Гэта пустасмех. Добрая тая п’еса, пасля якой хочаш рабіць нешта не так, як раней, хочаш жыць крышачку інакш, не рабіць таго глупства, якое высмеяна са сцэны, публічна”.

Сказана пазней, калі прыйшоў поспех як да драматурга. Але адкрываў ён гэтыя простыя творчыя ісціны, якія разам з тым з’яўляюцца па сутнасці асноватворнымі ў галіне сатыры і гумару, пішучы фельетоны, памфлеты, гумарэскі. Аднак нельга забываць і пэўных урокаў, атрыманых у арміі. Там, зразумела, было не да творчасці, але Андрэй Ягоравіч не радавым служыў, а памочнікам палітрука роты, таму часта вымушаны быў, як прызнаваўся, “паднімаць дух у чырвонаармейцаў”. Ды “гумарам для гэтай справы карыстаўся. Вядомая рэч — гумарам салдацкім”. І ўдакладняў: “Я ім часам і цяпер не грэбую, калі-нікалі ў п’есах можна вычытаць гэтыя недалікатнасці. Часам мяне папракаюць за гэта, але я на гэты папрок таксама з гумарам рэагую”.

Ад гумарэсак, памфлетаў і да п’ес перайшоў, хоць першая аднаактоўка “Добра, калі добра канчаецца” была напісана ў 1946 годзе. Дзве з іх — “Перад сустрэчай” і “Жыццё патрабуе” пабачылі свет асобным зборнічкам у 1951 годзе. Асобныя ставіліся самадзейнымі калектывамі рэспублікі. Але сапраўдную вядомасць А. Макаёнку прынесла камедыя “Выбачайце, калі ласка!” (“Камяні ў печані”). Двума гадамі раней, у 1951-ым напісаў драму “На досвітку”, пабудаваную на матэрыяле замежнай рэчаіснасці. Аднак гэты твор належнага поспеху не меў, тым больш “не гучыць” сёння з-за сваёй запалітызаванасці.

“Выбачайце, калі ласка!” заўважылі адразу. Гэта быў час, калі ў літаратуры панавала так званая тэорыя бесканфліктнасці. Асабліва цяжка даводзілася драматургам, паколькі рэзкай крытыцы падвяргаліся ў першую чаргу сатырычныя п’есы, якія, маўляў, ачарнялі савецкую рэчаіснасць. Выйсце асобныя аўтары знаходзілі ў тым, каб брацца за напісанне лірычных камедый. А. Макаёнак жа не пабаяўся. Яго камедыя — не проста камедыя, а камедыя сатырычная. Несумненная мастакоўская ўдача маладога на той час драматурга — вобраз кар’ерыста Каліберава, які заўсёды прывык “быць наперадзе перадавікоў” і дзеля гэтага не шкадаваў сродкаў. Будучы старшынёй райвыканкама, ён ішоў на прыпіскі, падман — абы толькі застацца на паверхні і “зрываць” апладысменты. Крах Каліберава — крах каліберશчыны. Той ганебнай з’явы, што пускала ў грамадстве моцныя карані.

Перачытваючы твор сёння, лёгка адчуць, што месцамі аўтар змякчае акцэнты. Прынамсі, гэта тычыцца завяршэння кар’еры галоўнага героя. У тагачасным жыцці ўсё ж не так проста было вывесці на чыстую ваду прыстасаванцаў і кар’ерыстаў. Аднак для свайго часу з’яўленне камедыі стала вельмі своечасовым і нездарма крытыка назвала гэта “сапраўдным творчым і грамадзянскім подзвігам драматурга”. А да такой высновы прыйшоў Якуб Усікаў у кнізе “Андрэй Макаёнак. Нарыс жыцця і творчасці”, якую выдавецтва “Народная асвета” выпусціла ў серыі “Народныя пісьменнікі БССР” (1984), падагульняючы жыццёвы і творчы шлях пісьменніка.

П’есы, якія з’явіліся ўслед за гэтай, настойліва імкненне А. Макаёнка да новых мастакоўскіх вышынь. У старэйшага пакалення чытачоў і гледачоў усе яны на слыху: “Каб людзі не журыліся”, “Лявоніха на арбіце”, “Зацюканы апостал”, “Трыбунал”, “Таблетку пад язык”... Гэтымі і іншымі творамі А. Макаёнак пераканаўча паказаў, якая вялікая ачышчальная сіла смеху. Нават смех скрозь слёзы карысны, калі ён жыццёвы. А гэта, у прыватнасці, відавочна пры знаёмстве з трагікамедыяй “Трыбунал”. У “Трыбунале”, як і ў “Зацюканым апостале”, А. Макаёнак дасягнуў удалага сінтэзу элементаў народнага лубка і драмы, а ў выніку і з’явіліся з-пад яго пяра трагікамедыі.

Ды і ўвесь тэатр А. Макаёнка — тэатр самога жыцця, а ў жыцці, як вядома, немагчыма правесці рэзкую мяжу паміж смешным



*А. Макаёнак, І. Шамякін, 1974 г.*



*А. Макаёнак, К. Крапіва, 1977 г.*



*Я. Брыль, А. Макаёнак, П. Панчанка, 1977 г.*



*А. Макаёнак, М. Танк, 1961 г.*

і драматычным, камедыйным і трагедыйным. З цягам часу яно ўносіць у яго пэўныя карэктывы, але нязменным застаецца галоўнае і вызначальнае: праблема чалавека ў самых розных аспектах і ў гэткіх жа розных стасунках з грамадствам, з усім тым асяроддзем, у якім ён жыве і які акружае яго. Каторы твор ні возьмеш, абавязкова знойдзеш у ім сугучнае сённяшняму дню. І неабавязкова ў самім змесце. Часам дастаткова пазнаёміцца толькі з аўтарскімі ўводзінамі ў свет герояў, каб пераканацца: тое, што турбавала А. Макаёнка, не можа не турбаваць параненейшаму. Як ва ўступе да п'есы "Верачка": "У наш суровы век стала асабліва адчувацца патрэба ў такіх чалавечых якасцях, як чуласць, дабрыня, сардэчнасць, спагадлівасць, таварыская падтрымка, брацкая гатоўнасць дапамагчы бліжняму, уважлівасць, далікатнасць і душэўная цеплыня".

Гэтыя і іншыя якасці і выхоўваў сваімі творамі А. Макаёнак. Ён пісаў з адзінай мэтай — "каб людзі не журыліся". Ён заклікаў: "Дыхайце эканомна" (апошняя сатырычная камедыя Андрэя Ягоравіча, над якой ён працаваў шмат гадоў і да апошніх сваіх дзён, на сцэне так і не ўвасоблена, упершыню была надрукавана ў дзевятым і дзесятым нумарах часопіса "Беларусь" за 1983 год). І ўспрымаць гэта трэба не толькі адносна прывязкі да канкрэтнай п'есы. Як і ў пераважнай большасці па-сапраўднаму мастацкіх твораў, нават сама назва дае падставу для глыбокага розуму, да пераасэнсавання шмат якіх паняццяў і жыццёвых з'яў.

Як бы каму ні хацелася, а тэатр А. Макаёнка жыве. Няхай цяпер п'есы не запатрабаваны прафесійнымі калектывамі, але ў многіх аматараў літаратуры і сцэнічнага мастацтва з'яўляецца жаданне перавыдаць п'есы Андрэя Ягоравіча, каб вярнуцца ў тыя добрыя (у нечым, на жаль, ужо старыя) часы, калі гледачы спяшаліся "на Макаёнка".

**Язэп ЛІТВІНОВІЧ**

*Фота Ул. КРУКА*

ВІНШУЕМ!

# Як адна вясна...

## Васілю ЖУКОВІЧУ — 60

Ва ўсіх даведніках, у якіх падаюцца біяграфіі беларускіх пісьменнікаў, гаворыцца прыкладна так: "Васіль Аляксеевіч Жуковіч нарадзіўся 7.11.1940 г. у вёсцы Забалацце Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці ў сялянскай сям'і". Але той, хто знаёмы з аповесцю В. Жуковіча "Як адна вясна..." (1980), напісанай на аўтабіяграфічным матэрыяле, з уступу "Водгулле" ведае, што "Забалоцце (В. Жуковіч прытрымліваецца такога вымаўлення. — **А. М.**) — гэта не вёска, а паселішча хутароў у адным з заходніх раёнаў Беларусі". Крыху ніжэй пісьменнік удакладняе: "Забалоцце... Не шукайце гэтага кутка на зямлі: няма ўжо нават балота, якое аддзяляла хутары ад сяла Дзяніскавічы, — балота асушылі, а хаты перавезлі ў сяло".

У гэтых нерушавых мясцінах і праходзіла маленства будучага пісьменніка. Акаляючы свет для назіральнага хлапчука быў па-своймў вабным: "Хутарскія сядзібы, нібыта разбегшыся наўкола балота, займалі з усходу на захад немалы абшар зямлі: ад Хваінкі, гонкага хвойнага лесу, да старой, з векавымі дубамі, Дубровы. Абодва гэтыя лясы цягнуліся на поўнач ад Забалоцця. Хваінка пераходзіла ў высокі Паплаўскі бор. За Дубровою сінеў Бельскі лес. Далей пачыналася пушча. За палямі і лугамі ды азёрамі былі вёскі: Асінікі і Сямісосны, Белая і Каменка, Падлужжа і Заазер'е. А на поўдзень з пушчы, праз сяло Дзяніскавічы, вяла ў горад шаша".

У галоўным героі Валодзю Ражэвічу ўгадваецца сам аўтар. У першай частцы расказваецца пра яго дзяцінства, вучобу ў школе. Кожны з невялікіх раздзелаў — па сутнасці сюжэтна завершанае апавяданне. У аповесці моцная дакументальная плынь. В. Жуковіч, як і Валодзя Ражэвіч, два гады працаваў на будоўлі, затым паступіў на філалагічны факультэт Брэсцкага педагагічнага інстытута імя А. С. Пушкіна, з трэцяга курса перавёўся на завочнае аддзяленне (скончыў у 1964 годзе). Працаваў у рэдакцыі брэсцкай раённай газеты "Заря над Бугом". З першымі вершамі выступіў на старонках газеты "Піянер Беларусі" яшчэ школьнікам, у 1956 годзе (пра гэта расказваецца ў раздзеле "Магія друкаванага слова" ў першай частцы аповесці).

Далейшае жыццё В. Жуковіча адлюстравання ў творы не знайшло. Ён з 1971 года быў старшым рэдактарам Брэсцкага абласнога тэлебачання, затым працаваў у рэдакцыі газеты "Знамя юности", у выдавецтве "Мастацкая літаратура". З 1981-га па 1982-і год з'яўляўся намеснікам галоўнага рэдактара выдавецтва "Юнацтва", з 1992 г. — у Рэспубліканскім цэнтры эстэтычнага выхавання дзяцей. Некаторы час быў супрацоўнікам "Настаўніцкай газеты". Цяпер працуе ў рэдакцыі часопіса "Полымя". Хораша зарэкамендаваў сябе як "дарослы" паэт, выдаўшы кнігі "Паклон", "Мелодыя святла", "Цана цішыні", "Разняволенне" і іншыя. Але няменш упэўнена адчувае сябе ў галіне дзіцячай літаратуры.



Як дзіцячы пісьменнік, працуе ў розных жанрах. Спачатку больш увагі надаваў вершам, казкам, загадкам і іншым традыцыйным жанрам. У гэтым найлепш пераконвае зборнік "Гуканне вясны". Хоць і да гэтага набыткі В. Жуковіча-дзіцячага паэта былі значныя, але менавіта згаданая кніжка засведчыла, наколькі ён можа быць арыгінальным.

"Гуканне вясны" — кніжка шматпланавая, можна сказаць, пяць самастойных зборнікаў, аб'яднаных пад адной вокладкай. Першы — "Слухай родную прыроду". Вершы "Сакавіцкі матыў", "Жаўруковая песня", "Красавіцкі малюнак", "Роднае неба" і іншыя знаёмяць дзяцей з харастом наваколля, прывучаючы іх да думкі, што чалавек — частка ўсяго жывога на зямлі і ён павінен імкнуцца да таго, каб не парушыць экалагічнай раўнавагі. В. Жуковіч піша вобразна, знаходзіць выяўленчыя сродкі, якія дазваляюць ствараць каларытныя і запамінальныя малюнкі. У гэты ж раздзел увайшлі і дванаццаць скорагаворак, прытым арыгінальных — прысвечаных кожнаму месяцу года.

Цікавымі атрымаліся і наступныя раздзелы: "Свята песенькай сустракаем", што знаёміць з народнымі традыцыямі, абрадамі, святамі, якія маюць багатую гісторыю ("Калядкі", "Калядная вячэра", "Гуканне вясны"), "Колеры жыцця", у якім В. Жуковіч запыняе ўвагу на асобных момантах нацыянальнай гісторыі ("Францішак Скарына", "Кастусь Каліноўскі", "Мы беларусы"). А раздзелы "Сонца забаўляецца" і "Не ўмею, паспею" можна аб'яднаць, паколькі ў абодвух змешчана шмат твораў вясёлых, займальных, а яшчэ ёсць загадкі. У першым — звычайныя і загадкі з падказкамі, у другім — загадкі з адгадкамі. Зноў жа ў іх шмат досціпу, матэрыял, які выкарыстоўваецца, спрыяе пашырэнню кругагляду маленькіх, вучыць іх вобразнаму мысленню.

Апошнім часам (гэтаму шмат паспрыяла праца ў Рэспубліканскім цэнтры эстэтычнага выхавання дзяцей) В. Жуковіч шмат робіць, каб удала спалучаць эстэтычнае выхаванне з педагагічным. Дзеля гэтага піша творы, што можна выкарыстаць у час правядзення школьных вечароў, ранішнікаў, арганізацыі розных гульняў. У тым жа зборніку "Гуканне вясны" змешчана казка "Два Маразы", напісаная па матывах фальклору. Друкавалася яна і ў часопісе "Пралеска". Але толькі тэкставы варыянт. Калі ж узяць зборнік "Казкі для сцэны", выпушчаны ў 1992 годзе Цэнтрам эстэтычнага выхавання, дык гэтая казка ў ім пададзена з нотамі, і яе можна з поспехам выкарыстоўваць пры правядзенні музычных ранішнікаў.

Дарэчы, творчае супрацоўніцтва В. Жуковіча з кампазітарам Эдуардам Казачковым дало ўжо плён: яшчэ ў 1992 годзе ў выдавецтве "Беларусь" выйшаў зборнік песень "Вясёлы ранішнік".

Наколькі шматбакова і з улікам нацыянальных асаблівасцяў разумее В. Жуковіч выхаваўчы працэс, сведчыць яго зварот да фальклору, нацыянальных традыцый. Прынамсі, працуючы над кнігай "Дзіцячы тэатр", ён падрыхтаваў інсцэніроўкі, пераважна народных казак, а таксама і маральных запаведзяў, што сёння, калі страчаны многія маральныя крытэрыі, вельмі важна. У кнізе ж "Заранічка" паэт жадае бачыць сярод будучых чытачоў усіх, хто мае дачыненне да выхавання падрастаючага пакалення: выхавацеляў садоў, бацькоў, настаўнікаў пачатковых класаў. Вершы і казкі, што ўвайшлі ў гэты зборнік, падзелены на шэсць раздзелаў. Праўда, В. Жуковіч, па меры магчымасці, не абмінае і іншых жанраў: прыказак, прымавак і нават публіцыстыкі.

Важнае і тое, што В. Жуковіч належыць да пісьменнікаў, якія падтрымліваюць пастаянную сувязь з выхавацелямі, настаўнікамі. Ён часты госць у мінскіх СШ NN 148 і 78, дзе ставяцца яго п'есы, інсцэніруюцца казкі. А ў СШ N 1 разам з кампазітарам Э. Казачковым паставілі дзіцячую оперу "Пра тое, што было", паводле народнай казкі "Коцік, пеўнік і лісіца".

Дык, можа, назва аповесці "Як адна вясна..." стасуецца і да ўсёй творчасці В. Жуковіча? Тое, што піша ён, спрыяе абуджэнню ў дзетак любові да сваёй зямлі. Абуджэнне ж — заўсёды вясна. А пісьменнік, які разумее гэта, нязменна застаецца маладым, не зважаючы на ўзрост.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

## "Анталогія беларускай эпіграмы"

**Дзякуючы выдавецтву "Ураджай", а найперш Казіміру Камейшу, які з'яўляецца ўкладальнікам і аўтарам прадмовы, нарэшце выйшла першая ў нашай краіне "Анталогія беларускай эпіграмы". Эпіграма, як вядома, перакладаецца з грэчаскай мовы як**

АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ЭПІГРАМЫ



**"надпіс". А з'явілася яна прыкладна дзве тысячы восемсот гадоў назад, калі ў Старажытнай Грэцыі пачалі рабіць дарункавыя альбо хвалебныя надпісы на трыножэ, шчыце. Выкарыстоўвалі для гэтага і паверхню гліняных вазаў. Пазней узнікла як свайго роду паслядоўніца эпіграмы — эпітафія: надпіс на магільных камянях, помніках. Зразумела, тады і гаворкі не магло ісці аб эпіграме як літаратурным творы. Ім эпіграма стала недзе ў VII—VI стагоддзях да н. э.**

**Пра ўсё гэта можна даведацца з уступнага артыкула К. Камейшы "І гумар, і досціп".Як і пра тое, што "другое жыццё эпіграма атрымала дзякуючы пісьменнікам еўрапейскага Адраджэння. І калі да XVI веку эпіграмы пісаліся пераважна на латыні, то ўжо з XVI веку вострае сатырычнае слова пачынае гучаць і на мовах еўрапейскіх, у тым ліку і на польскай, дзякуючы чаму яна змагла быць пачутай і на Беларусі. Што тычыцца нашай беларускай эпіграмы, то яна, як і руская, узнікла значна пазней. Але глеба для яе ўзнікнення была самая выдатная — яе падрыхтаваў сам фальклор".**

**Наколькі асобныя ўзоры яго і набліжаюцца да эпіграмы, лёгка ўпэўніцца, калі пазнаёміцца з першым раздзелам кнігі — "З куфэрка народнага досціпу", што складаецца з двух падраздзелаў: "Эпіграмічныя прымаўкі і выслоўі" і "Эпіграмічныя прыпевы". Народу не адмовіш у дасціпнасці: "З твару — яйка, а ўнутры — баўтун", "Сем лет ткала, сем лет прала, тры дні шыла, а да абеду знасіла", "Нядоля мая горкая: ніхто не паторкае", "З суда, што з пруда, — сухім не выйдзеш" і іншыя.**

**А гэта адзін з "эпіграмічных прыпеваў":**

*Са Смаргоні мешчанін*
*Я...ы ў дзверы ўшчыміў.*
*Тузаў, тузаў пальцамі:*
*— А хрэн з імі, з я...і.*

**У раздзеле "Ля вытокаў" змешчаны эпіграмы С. Полацкага, Я. Баршчэўскага, Ф. Багушэвіча. Куды больш прадстаўнічы на імёны і творчы раздзел "Век дваццаты". Тут і Я. Купала, і М. Багдановіч, і П. Панчанка, і М. Лужанін, і С. Грахоўскі, і Н. Гілевіч, і В. Жуковіч, і П. Саковіч, і сам К.Камейша. Ды і іншыя. Цікава і тое, што жанр эпіграмы прываблівае не толькі слынных паэтаў. Наконт гэтага К. Камейша зазначае: "Ведаю, што багата эпіграм трымаюць у памяці сын Якуба Коласа Міхась Міцкевіч, вучоны Ромаш Лядаховіч-Тамілін. Пісалі эпіграмы і празаікі". А наколькі вялікая прыцягальная сіла гэтага жанру, відаць па тым, што "многія з нашых паэтаў маглі б пацягнуць на цэлыя зборнікі" эпіграм. Перш за ўсё Р. Барадулін, М. Лужанін, Н. Гілевіч. Ды і "добрая кніга эпіграм ёсць у літаратурнай спадчыне таленавітага Анатоля Вялюгіна". Дарэчы, эпіграмы М. Міцкевіча і Р. Лядаховіч-Таміліна трапілі і ў зборнік. А якое вялікае майстэрства слынных паэтаў у жанры эпіграмы, відаць хоць бы з гэтага твора Н. Гілевіча ("Аднаму "пекнагалосаму"):**

*Цябе з салаўём параўналі, і я*
*Хвалебную ноту не смею парушыць:*
*Папраўдзе, пяеш ты не горш салаўя...*
*Таго, што кабылу ў бярэзніку душыць.*

**Шмат цікавых твораў і ў раздзелах "Парнаскія перастрэлы" і "Іншыя экспромты". Ёсць сярод іх нават шрубэкспромты, аўтарам якіх з'яўляецца П. Шруб. Для прыкладу адзін — "Што мы любім":**

*Мы любім гарэлку, піва і джын,*
*напоі вырабаў хатніх,*
*кахаем усяго толькі дзвюх жанчын:*
*жонку*
*і ўсіх астатніх.*

**У завяршэнні прадмовы К. Камейша ўдакладняе: "Мы імкнуліся засяродзіцца на тым, што выклікае зычлівую ўсмешку, захапленне, вымагае шчырага душэўнага саўдзелу з аўтарам. Як бачым, і ў сённяшнім нашым, часта неўладкаваным жыцці, матэрыялу для эпіграмы больш чым дастаткова. Дык поспехаў табе і ўдзячных чытачоў, беларуская эпіграма!". Хочацца дадаць: і чарговага, больш поўнага выпуску "Анталогіі беларускай эпіграмы".**

**Юрась ВАЙСЁНАК**

ПАЭЗІЯ

Генадзь
БУРАЎКІН



# З кнігі "Жураўліная пара"

●

*Я даўно жыву не па каране,*
*П'ю жыццё,*
*Нібыта д'яблаў трунак.*
*Кожная зіма —*
*Як пакаранне.*
*Кожная вясна —*
*Як падарунак.*

*Я зусім не супраць гэткай долі —*
*З познім громам*
*І з паводкай ранняй.*
*Хоць грахоў і не пераадолеў,*
*А не маю ў сэрцы шкадавання.*

*Не было ніколі мне задужа*
*Рызыкі,*
*Адвагі*
*І спакусы.*
*Ну і што,*
*Калі часамі сцюжа*
*Мне раўніва ледзяніла вусны?*

*Мне яшчэ цікава,*
*Нібы змею,*
*Цікаваць за скрынкаю Пандоры...*
*Колькі зімаў я стрываць сумею?*
*Колькі вёснаў мне жыццё падорыць?..*

●

*Калі з начных дарог прыходзіш*
*У бацькаў двор*
*Пасля бяды,*
*З вадой крынічнаю калодзеж*
*Цябе сустрэне,*
*Як заўжды.*

*І сонца выкаціць з-за гаю*
*Сваё чырвонае ядро,*
*І з неба зорка,*
*Хоць якая,*
*Зляціць у поўнае вядро.*

*Дык не дазволь,*
*Каб нехта іншы,*
*Хто пот не ліў*
*І гразь не тоўк,*
*Аб зорку вусны апаліўшы,*
*Зрабіў тут ранішні глыток...*

●

*Які б наш дзень ні быў убогі,*
*А словы і цяпер чутны,*
*Нібы адказ на ўсе трывогі:*
*"Каб толькі не было вайны".*

*Паўвека адгуло над краем.*
*Дзядамі робяцца сыны.*
*А мы ўсё*
*Горка паўтараем:*
*"Каб толькі не было вайны".*

*І на экране*
*І з трыбуны*
*Не раз*
*Высокія чыны*
*Адводзяць крытыку любую:*
*"Але ж у нас няма вайны".*

*І з неўсвядомленай віною*
*Не моўкнуць памяці званы:*
*"Ну колькі можна жыць вайною?*
*Калі ж мы вернемся з вайны?"*

*Ды кожным вечарам*
*Матулі,*
*Як да калыскі клічуць сны,*
*З адной надзеяй*
*Дзетак туляць —*
*Каб толькі не было вайны.*

●

*Што ж такое дзеецца на свеце? —*
*Здрада*
*Як жыла,*
*Так і жыве*
*І вандруе весела ў карэце*
*З залатым вянцом на галаве.*

*Ёй натхнёна ў бубны б'юць музыкі.*
*Ёй нясуць букеты гваздзікоў.*
*Разявакі,*
*Як на фэст вялікі,*
*Стрымгалоў бягуць з усіх бакоў.*

*У карэце,*
*Гружанай мяхамі,*
*Здрада ў свет імчыцца нацянькі*
*І смяецца,*
*І рукой махае,*
*Раскідае шчодра медзякі.*

*Праляцела паўз натоўп імгненна,*
*Знікла з пылам*
*За гарой крутой...*
*І стаіць наводшыбе*
*Сумленнасць,*
*Што ідзе па свеце пехатой.*

●

*Я веру,*
*Што і ў кветках ёсць душа,*
*Якая адгукаецца,*
*Жывая,*
*Калі іх нехта ад дажджу хавае*
*Ці палівае ў спёку з гладыша.*

*Яна ўсё добра помніць,*
*Што было*
*І ў сумны прыцемак*
*І ў дзень вясёлы,*
*Пакуль да сонца цягнецца сцябло*
*І палісаднік абмінаюць пчолы.*

*А потым,*
*Як лісты напоўніць сок*
*І фарбамі сквецце набрыняе,*
*Яна рванецца ўверх*
*Над каранямі,*
*Пылок з пялёсткаў строслы на пясок.*

*І расцвіце,*
*І здзівіцца сама*
*Сваёй пяшчотна-яркай прыгажосці.*
*І да яе зляту́цца пчолы ў госці,*
*І ўспырхне побач матылёў гурма...*

*І ўсё ж*
*Ёй будзе, пэўна, адзінока*
*І крыўдна,*
*І пакутліва,*
*Калі*
*Хаця б на міг*
*Яна не ўсцешыць вока*
*Таму,*
*Хто з гладыша яе паліў.*

●

*Як чашы караблі*
*Віхуры ні гайдалі,*
*Да ўстойлівай зямлі*
*Усё бліжэй з гадамі.*

*Злізала соль вада*
*На вуснах агрубелых.*
*І мне ўсіх тых шкада,*
*Што збеглі ў шторм на бераг.*

*Хоць дружбу прадалі,*
*Шчаслівымі не сталі.*
*Ім месца не далі*
*На цесным п'едэстале.*

*На беразе пустым*
*Стаяць яны ў адчаі.*
*Як Богавы лісты,*
*Над імі кружаць чайкі,*

*Ім з белых караблёў*
*Не прысылаюць позваў.*
*І да былых сяброў*
*Ужо вяртацца позна.*

●

*Я не стану ўжо ні прынцам дацкім,*
*Ні —*
*Тым больш —*
*Іспанскім каралём.*
*Мне б за ранг паэта апраўдацца*
*У сваёй Радзімы пад крылом.*

*Каб яна мяне не адпусціла*
*З той дарогі,*
*На якой стаю,*
*І прыадчыніла літасціва*
*Мне душу збалелую сваю.*

*Я прашу ў яе зусім нямала —*
*Каб не праганяла з-пад крыла*
*І маю ляноту даравала,*
*І маю няўмеласць не кляла.*

*А яшчэ разлічваю нясмела,*
*Каб яна ў бязладнай гамане*
*І мае ўсе словы зразумела,*
*І не пасмяялася з мяне...*

●

*Чакання час паўзе старым смаўжом.*
*Без шумнай грамады*
*І без прыстанку*
*Пад дробным надакучлівым дажджом*
*Стаю адзін на восеньскім паўстанку.*

*Ну што ж,*
*Калі я ад жыцця адстаў,*
*Нямодны,*
*І нямоглы,*
*І нягеглы.*
*Адгрукатаў па рэйках мой састаў*
*І ўдаль вагоны весела прабеглі.*

*Лісты зляятаюць на мае сляды.*
*Ля ног маіх —*
*І хлюпатна,*
*І чорна...*
*Дарэмна так спяшаўся я сюды —*
*Былы расклад перамянілі ўчора...*

●

*Калі на раздарожжах крыжавых*
*Дагоняць і мяне чужыя коні,*
*— Перажыві мяне,*
*Перажыві! —*
*Я папрашу каханую спакойна.*

*Хоць вусны зачарсцвеюць ад крыві*
*І мне ніхто не забінтуе раны,*
*— Перажыві мяне,*
*Перажыві! —*
*Як запавет,*
*Я прашапчу каханай.*

*Нявесела ўсміхнуся:*
*"Сэ ля ві"*
*І апушчуся на прывялы верас.*
*— Перажыві мяне,*
*Перажыві! —*
*Я папрашу каханую яшчэ раз.*

●

*Дружа мой,*
*Чаго так рвешся ў суддзі?*
*Ці з гадамі сверб байца не сціх?*
*Чым цябе так раззлавалі людзі,*
*Што ты слінай пырскаеш на ўсіх?*

*Быў, здаецца, ты філосаф тонкі.*
*Дык чаго ж у гнеў цябе ўвялі*
*У чужых дамах красуні-жонкі*
*І ў чужых шуфлядах медалі?*

*Поўзаеш паміж людзей,*
*Зацяты,*
*Як даўно не кормлены удаў...*
*А хіба ў тым нехта вінаваты,*
*Што табе Бог таленту не даў?..*



*Фота В. ЦУРАНАВА*

# ЭКСПЕРЫМЕНТ, або СПОВЕДЗЬ ПРАВІНЦЫЙНАГА ПАЭТА

АПАВЯДАННЕ

Валянціна КАДЗЕТАВА



Прабачце, калі ласка, вось у вас у руках кніжка... Ды так, дзіўнавата крыху. Звычайна ў дарогу бяруць што-небудзь “лёгкае”: фантастыку, дэтэктыўчыкі кшталту “Любовник на двоих”, а вы — вершы. Сёння, на жаль, мала хто паэзіяй цікавіцца. Любіце паэзію? Тады, можа, вам даводзілася чытаць вершы Віктара Вардамацкага? Мо хоць чулі, што ёсць такі паэт? І то добра, што чулі. Прачытаеце пры выпадку? Наўрад. Ды таму, што такі выпадак не хутка надарыцца: гэты самы Вардамацкі надоўга, калі не назаўжды, сапсаваў сваю творчую кар’еру. Толькі не падумайце, што ён пісаў якія-небудзь непрыстойнасці ў стылі Баркова ці заклікаў да тэрору на дзяржаўным узроўні. Не, чалавек ён выхаваны, далікатны і да нейкіх там палітычных партый і гуртоў — ні-ні! Ягоная стыхія — п а э з і я. Яна — адзіная яго ўцеха, радасць і, можна сказаць, сэнс жыцця. Калі гавару, значыць, ведаю. Я і вершы Вардамацкага амаль усе на памяць ведаю. Неблагія, скажу вам, вершы. Пэўна, не горшыя за гэтыя вось, што вы чытаеце. А, можа, і лепшыя. Вось, напрыклад... Ды не бойцеся, не збіраюся я тут, у вагоне, дэкламаваць свае... яго... Віктара Вардамацкага вершы. Я? Ну і я пішу. І друкаваўся. Рэдка, праўда. А цяпер і ўвогуле... Ну я ж сказаў, што сам і сапсаваў сабе... Цьфу! Зусім заблытаўся. А што тут хітрыць? Вы ўжо, відаць, здагадаліся? Так, я і ёсць той самы Вардамацкі. Што ж, як гаворыцца, будзем знаёмыя: паэт Віктар Вардамацкі. Я ж з выдавецтва еду. Кніжка мая там павінна была выйсці. Пяць гадоў чакаў. Амаль пяць. Па першым часе, як рукапіс здаў ды заключэнне рэдактарскае атрымаў (Полазаў пісаў, можа, чулі пра такога?), столькі было радасці! Але рана я перамогу сваю святкаваў! І заключэнне станоўчае было, і ў план выдавецкі кніжку маю паставілі, але... на наступны год перанеслі, а потым зноў на наступны... Прыеду я ў выдавецтва — ездзіў разы па два на год, хоць далекавата: дзе тыя Жыткавічы, а дзе — Мінск! — спытаюся, як мае справы, раскажуць мне пра аб’ектыўныя прычыны, пра “нялёгкі наш час”, пра тое, што нават творы нашых слынных пісьменнікаў колькі ўжо гадоў нявыдадзеныя ляжаць, паабяцаюць, што ў “наступным годзе ўжо абавязкова” — з тым я і вяртаюся дадому. Але тады хоць якая надзея была: а мо і сапраўды ў наступным? А сёння... Аддалі мне сёння мой рукапіс. Ды як?! Толькі што ў твар не шпурнулі. І Ларыса, жонка мая, цяпер ужо пэўна мяне вырачацца. Я не хачу абвінавачваць яе ў жорсткасці і бяздушнасці: проста стамілася жанчына. Самі разважце: зарабляю я няшмат і дома ёй не памочнік, іншы раз суткамі за пісьмовым сталом праседжваю. Раней яна спадзявалася, што я знакамітым стану, і тады мы ўрэшце мільёны свае няшчасныя лічыць перастанем. Я стараўся давесці ёй, што заняткі літаратурай багацце, пра якое яна марыць, наўрад ці прынясуць. Але Ларыса была ўпэўнена, што пісьменнікі (сапраўдныя пісьменнікі — падкрэслівала яна) грошы лапатаю грабуць, таму і згаджалася пачакаць, асабліва пасля таго, як рукапіс мой у выдавецтве ўхвалілі. Ну а цяпер яна мяне разам з гэтым рукапісам і выганіць. Ведаеце, а я ўсё роўна вядомым паэтам стану. Насуперак усяму. Вы лічыце маё памкненне нясціплым? Але ж кожны творца пра тое марыць, паверце. Я вершы даўно пішу, яшчэ са школы. Ну, пісаў спачатку як бы для сябе. Потым пачаў па рэдакцыях рассылаць. І адусюль я атрымліваў толькі станоўчыя водгукі. Але водгукі — водгукамі, а друкаваць не вельмі кідаліся — добра, калі раз ці два на год удавалася мне ўбачыць пару сваіх вершаў дзе-небудзь у друку. Падлічыў я, што калі і далей так справы пойдуць, то да пенсійнага ўзросту паспею надрукаваць іх крыху больш за паўсотню. І тады я асмеліўся прапанаваць рукапіс ажно з дзвюма сотнямі вершаў аднаму саліднаму выдавецтву. Ну, пра канчатковы вынік вы ўжо чулі. А цяпер пра тое, што да таго выніку прывяло.

Аднойчы, гады два таму, угледзеў я ў нашай раённай бібліятэцы зборнік вершаў. Прозвішча аўтара здалося мне знаёмым. Потым успомніў, што прозвішча такое, даволі рэдкае, носіць адзін наш грамадскі дзеяч. Спачатку падумалася, што аўтар зборніка — проста цёзка па прозвішчы з тым дзеячам, але, зазірнуўшы ў анатацыю, упэўніўся — не, не цёзка, а сам ён — назавём яго Пятроў — і ёсць. Я перагарнуў некалькі старонак (якая цудоўная гладкая папера!), прабег вачыма па радках. Чым далей чытаў, тым больш здзіўляўся: вершы на ўзроўні няўдалага пачаткоўца, няўклюдна зарыфмаваная лухта. “Відаць, гэты самы Пятроў захварэў на паэтычны сверб, — падумалася мне. — І, каб задаволіць той сверб, уклаў немалыя сродкі, каб нейкае камерцыйнае выдавецтва гэту кніжку ў свет выправіла. Ім, камерцыйным, абы грошы плацілі, яны што заўгодна надрукуюць”.

Але зірнуў я на тытульны ліст і разгубіўся: тое самае выдавецтва, дзе ўжо тры гады ляжыць мой рукапіс!

Праз нейкі час паехаў я зноў у выдавецтва — даведацца пра лёс сваёй будучай кнігі. І зноў пачуў няўцешлівае: “У наступным годзе...” Пахадзіў я па сталічных вуліцах, у кнігарню зазірнуў. І... Я яе адразу заўважыў, тую кніжку — новы паэтычны зборнік М. П. Пятрова. Адразу ж паглядзеў, дзе выдадзена. Не, не ў тым паважным дзяржаўным выдавецтве, а ўжо ў другім, але таксама дзяржаўным і не менш паважным. І зноў любаваўся я прыгажосцю афармлення і гладкасцю, белізной паперы, і зноў вымушаны быў чытаць няўклюдна зарыфмаваную лухту. Прагледзеў прадмову, і з вуснаў маіх ледзьве не сарвалася цэлая нізка, даруйце, ненарматыўнай лексікі — хваляць аўтара, ды як! Маўляў, “за ўяўна простым сюжэтам і немудрагелістай, на першы погляд, формаю вершаў бачыцца філасофская глыбіня думкі і выдатнае паэтычнае майстэрства”. Ну і гэтак далей. Заканчвалася прадмова наступнымі словамі: “Спадзяёмся, што чытач рады будзе пазнаёміцца з новай кніжкай гэтага таленавітага і самабытнага паэта”.

Тут, прызнаюся, мільганула ў мяне ў галаве: а можа, мне раптам розум заслаціла, таму я не бачу тут ні філасофскай глыбіні думкі, ні паэтычнага майстэрства? Вырашыў я наведацца да аднаго свайго ...ну, сябра-не сябра, а скажам так — прыяцеля. Прозвішча яго няхай будзе Токараў. У яго каля дзесятка кніжак выйшла, і чыё-чыё, а ягонае слова ў літаратурным свеце даволі важкае. Прыхапіў я з сабою тыя два зборнікі “самабытнага і таленавітага” і з’явіўся з імі на дачы ў Токарава. Ён сустрэў мяне гасцінна, свежай рыбаю пачаставаў (сам лавіць!), у лазні прапанаваў памыцца. Ну, пакуль мы пра розныя дробязі гаварылі, Токараў у добрым настроі быў, а калі я пачаў пра тое, дзеля чаго ўласна і прыехаў, ён пасур’ёзнеў, спахмурнеў нават. Выслухаў мяне, кніжкі Пятрова ў руках патрымаў, а потым пытаецца: “А калі канкрэтна, дык чаго ты, Віктар, хочаш ад мяне асабіста?” “Хачу, — кажу яму, — вашу думку наконт вось гэтых твораў паслухаць і ўпэўніцца, што з галавою ў мяне нармальна”.

Токараў яшчэ больш спахмурнеў: “А вось гэтага, шаноўны Віктар, ты не маеш права ад мяне патрабаваць. Я сваю думку пры сабе трымаць буду і выказваць яе ні табе, ні каму другому не збіраюся. Так спакайней будзе, зразумеў?”

“Ды ўжо ж, — засмяяўся я, — толькі ж вы яе выказалі, думку сваю. І вельмі ясна выказалі. А што далей рабіць — гэта мой клопат”.

А Токараў, не зважаючы на маю іронію, працягваў: “Пятроў — чалавек паважаны, салідны, пасаду немалую ажно ў міністэрстве займае...”

“Ды паслухайце, Юрый Васільевіч, — перабіў я яго, — няўжо вы мяркуеце, што гэтага дастаткова, каб лічыцца паэтам?! А як жа такая дробязь, як талент?”

“Ведаеце, у іх, тых, хто вышэй стаіць, таксама могуць быць свае прыхамаці. Ну, хочацца Пятрову пісаць вершы — няхай сабе піша. І не трэба крыўдзіць неблагога чалавека”.

“Так, — не на жарт раззлаваўся я, — няхай САБЕ і піша. У альбом, напрыклад. А НАМ такіх вершаў не трэба, бо такая “паэзія” — прафанацыя творчасці. Сёння ён хоча пісаць вершы, а заўтра яму ўздумаецца танцаваць у балеце. І ён зноў не захоча танцаваць САБЕ, а палезе, напрыклад, на сцэну тэатра. Уяўляеце, як ён са сваім чэравам будзе выглядаць у ролі маленькага лебедзя?”

“Не трэба яхіднічаць, Віктар, — незалюбіў Токараў. — І давай, што называецца, закрыем гэтую тэму. Я табе тут не паплечнік і нават не дарадца. Адно толькі параіць магу: не чапляйся ты да гэтых кніжак і не дадумайся дзе-небудзь шум падымаць — табе ж горш будзе. Чаму? А таму, што Пятроў, апроч усяго, блізкі сваяк Аляксея Раманавіча”.

Можа, я і паслухаўся б Токарава, махнуў бы на ўсё рукою і закінуў бы злашчасныя “шэдэўры” куды-небудзь далей, каб на вочы не траплялся. Але тут, як на грэх, на наступны ж дзень па радыё — літаратурная перадача, прысвечаная творчасці Пятрова. Доўга гаварыла вядучая пра “каштоўнасць творчага ўкладу самабытнага і таленавітага ў сучасную літаратуру”. А потым Пятроў чытаў свае вершы. Так званыя “вершы”.

Вось тады я па-сапраўднаму ўзбунтаваўся. Тады і прыйшла да мяне думка правесці эксперымент, які меў для мяне вельмі сумны вынік.

Сеў я за стол, напісаў два лісты аднолькавага зместу: так, маўляў, і так, шаноўны рэдактар шаноўнага выдавецтва, прапаную вам для разгляду рукапіс будучай (калі яна будзе) кніжкі паэзіі і з хваляваннем чакаю прысуду. Пад адным лістом паставіў прозвішча Міхася Тарасёнка, пад другім — Васіля Карпуліна, суседзяў сваіх па лесвічнай пляцоўцы, з якімі ўсё папярэдне абгаварыў. Потым узяў дзве папкі — чырвоную і сінюю. Выбраў з дзвюх кніжак Пятрова па некалькі дзесяткаў вершаў, надрукаваў іх на машынцы. Вершы, узятыя з кніжкі, выдадзенай у Салідным Выдавецтве N 1, паклаў у чырвоную папку і адаслаў іх у Саліднае Выдавецтва N 2, ну а вершы з кніжкі, што пусціла ў свет Саліднае Выдавецтва N 2, адрасаваў Выдавецтву N 1. Вы зразумелі, навошта я гэта зрабіў? Рызыкаваў? Ды ніякай рызыкі: я быў упэўнены, што і там, і там чыталі толькі СВОЙ рукапіс. Так яно і было. Праз нейкі час — праз паўгода недзе — атрымалі Тарасёнак і Карпулін (ну, суседзі мае) адказы з выдавецтваў. Абодва лісты заканчваліся аднолькавымі прапановамі — забраць рукапіс з выдавецтва (на перасылку, як тлумачыў рэдактар, выдавецтва не мае сродкаў) і парадаю паспрабаваць свае сілы ў чым заўгодна, толькі не ў літаратурнай творчасці. Пра вершы было сказана, што яны стандартныя па тэматыцы, думкі “глыбінёй не вызначаюцца”, тэхніка кульгае (недакладныя, прымітыўныя рыфмы, збой у рытме). Ну, павесяліўся я крыху, і ў рэдакцыю нашай раёнкі рушыў — ксеракопіі з дасланых заключэнняў зняць.

Праз тыдзень я адаслаў у адно сатырычнае выданне ёмістую бандэроль: два зборнікі Пятрова, дзве папкі — чырвоную і сінюю — ксеракопій лістоў з выдавецтваў і мною ўласнаручна напісаны фельетон. “Што б гэта азначала?” І з нецярпеннем пачаў чакаць публікацыі.

Адаслаў я бандэроль, а літаральна праз некалькі дзён патэлефанавалі мне з выдавецтва і запрасілі прыехаць “па пытанні, звязаным з вашым рукапісам”.

У выдавецтва я дапяў апоўдні. Знайшоў Полазава — рэдактара аддзела паэзіі. Ён не прапанаваў мне сесці, а адразу ж з парога пачаў:

“Ведаеце, Вердамацкі, мы тут яшчэ раз уважліва пераглядалі ўсе рукапісы перад тым, як несці на подпіс да галоўнага, і вырашылі, што вашы вершы не вартыя таго, каб выдаваць іх у нас”.

“Як гэта — не вартыя? — я адчуў, што ногі мае па-здрадніцку задрыжэлі, а лоб узмакрэў. — Ці ж не вы ўласнаручна пісалі заключэнне на іх? Што ж змянілася? Выходзіць, я дарэмна чакаў столькі часу?”

“Людзям уласціва памыляцца, — прамовіў Полазаў. — Я таксама памыліўся, калі даў празмерна высокую ацэнку вашым творам. Так што забірайце іх, як кажуць, з Богам. І лепш паспрабуйце свае сілы ў публіцыстычным жанры. Фельетончыкі пішыце, напрыклад”.

І толькі цяпер я ўсё зразумеў! Дон Кіхот няшчасны, дурань! На што я спадзяваўся?

Вось і ўся мая гісторыя. І як вы думаеце, што мне цяпер рабіць? Маўчыцё? Правільна, Токараў жа сказаў: “Так спакайней”. Толькі ж ці не таму, што мы прывыклі маўчаць там, дзе маўчаць нельга, і адбываецца ўсякае паскудства вакол нас?

Нічога, перажывём. Можа, усё ж нешта ў нашым жыцці пераменіцца. Толькі вось Ларыса... Ну што ж, вольнаму — воля. Дарэчы, наступны прыпынак — мой. Вы ўжо не крыўдуйце, што навязаўся да вас са сваёй споведдзю — мне трэба было выгаварыцца, бо так да сэрца падступіла, што, здавалася, разарвецца яно. Цяпер во крыху лягчэй стала. Дзякуй, што выслухалі. Усяго добрага вам...

●

Літаратурны крытык Рыгор Царанкоў (гэта быў ён) правёў позіркам высокую хударлявую постаць няўдалага выкрывальніка і з палёгкай уздыхнуў. Не, гэта была выпадковая сустрэча. А ён да апошняй хвіліны сумняваўся: мо гэты Вардамацкі ўгледзеў яго яшчэ там, у выдавецтве, пазнаў, а потым спецыяльна сачыў за ім, на вакзал паехаў і ў той жа вагон, што і Царанкоў, сеў, каб паспавядацца і папрасіць дапамогі?

Ах, Вардамацкі, Вардамацкі! Навошта табе быў твой “эксперымент”? Праўду кажуць: “Ніхто не зробіць горш табе, чым ты сам сабе”.

А ўрэшце, ці не быў некалі і сам Царанкоў такім жа наіўным? Гэта ж толькі падумаць: у той час, як брэжнеўская “трылогія” стала “вялікай падзеяй у літаратурным жыцці” і была ўведзена не толькі ў школьныя, але і ў інстытуцкія праграмы, ён, тады зусім малады яшчэ настаўнік, у прысутнасці інспектара райана заявіў, што “Малая зямля”, “Адраджэнне” і “Цаліна” — звычайная шэрая публіцыстыка, і ён, Царанкоў, не збіраецца тлуміць дзецям галовы, бо ў яго і так не хапае часу, каб даць вучням хоць якое ўяўленне пра САПРАЎДНЫЯ творы айчыннай літаратуры.

Ад звальнення “з воўчым білетам” яго ўратавала шчаслівая выпадковасць. Але ён, мабыць, не зразумеў гэтага, бо і тады, калі літаратурная праца стала для яго асноўнай прафесіяй, артыкулы Царанкова нейкі час вылучаліся сярод іншых нейкай своеасаблівай бескампраміснасцю і шчырасцю. А потым... Потым яму “падрэзалі крылы” чыноўныя заступнікі такіх вось пятровых. А што тычыцца Пятрова, то Царанкоў добра яго ведае. І “творы” ягоныя ён чытаў. І абураўся... сам-насам. Але далей гэтага справа не пайшла. І, відаць, не пойдзе.

Перад вачыма Царанкова раптам, як наяве, паўстаў усхваляваны, разгублены твар паэта з правінцыі, шчыры і адкрыты позірк яго шэрых вачэй, і крытыку на нейкую хвіліну здалося, што ён убачыў сябе — таго, ранейшага... Ён страсянуў галавою, праганяючы ад сябе гэтае насланнё, і адчуў, як недзе, у глыбіні свядомасці, пульсуе-нараджаецца крамольная думка: “А можа..?”

## Спевы яднаюць



**Прыемна паслухаць нешта свежае, новае. Такую магчымасць мелі сталічныя аматары музыкі, наведаўшы 1 лістапада Вялікую залу філармоніі. Тут, даваў канцэрт Камерны хор Вышэйшай Берлінскай школы мастацтваў пад кіраўніцтвам Крысцьяна Грубэ.**

**Хор існуе амаль 20 гадоў, пяюць у ім вучні Крысцьяна — выхаванцы Вышэйшай Берлінскай школы мастацтваў. У мінскім канцэрце гучалі ў асноўным творы нямецкіх кампазітараў, рэлігійнага зместу. І гэта невыпадкова.**

**Крысцьян Грубэ атрымаў дыплом як кіраўнік хору і настаўнік музыкі. Некаторы час выкладаў у школе, у якой калісьці працаваў Георг Філіп Тэлеман. З 1973 года кіраваў дзіцячым хорам Домскага сабора ў Берліне і адначасова быў прафесарам Вышэйшай школы мастацтваў. Цікава, што Домскі сабор знаходзіўся ва Усходнім Берліне, а хор працаваў у Заходнім, і толькі пасля разбурэння Берлінскай сцяны хор атрымаў месца сваёй "прапіскі". Дзіцячы хор тройчы выступаў у былым Савецкім Саюзе: у Ленінградзе, Маскве і Мінску. І вось маэстра прывёз у нашу сталіцу свой камерны калектыў.**

**Прыемна, што мы паслухалі шмат музыкі, якая дагэтуль не выконвалася ў Мінску. Уразіла дакладнасць штрыхоў, празрыстасць фактуры, інструментальнасць у выкананні кожнай партыі, асабліва сапранавай і, канечне, віртуознасць у складаных партытурах Баха. Духоўная музыка і склад хору вымагаюць іншай акустыкі, чым тая, што ў зале філармоніі. Я пераканаўся ў гэтым, калі ўдзельнікі хору наведалі царкву Іконы Божай Маці Усіх Тужлівых Радасце, што на вуліцы Прытыцкага, і выканалі там матэт Баха. Зусім іншае гучанне. Дарэчы, і на саміх выканаўцаў гэтае выступленне зрабіла вялікае ўражанне.**

**І наогул, нямецкіх музыкантаў уразіла наша публіка, нашы людзі, іх шчырасць, дабрыня і прыветласць: а кантакты былі цеснымі, бо харысты жылі ў сям'і студэнтаў і ў інтэрнаце Беларускай акадэміі музыкі. Маладыя музыканты абедзвюх краін зрадніліся настолькі, што пры развітанні на Мінскім вакзале суладна і гожа выконвалі разам беларускія народныя песні — на некалькі галасоў!**

**Расставаліся з планамі на новыя сустрэчы.**

**Аляксандр МІЛЬТО**

*На здымку: маэстра К. ГРУБЭ.*

## "Мастацтва", N 9

**Часопіс працягвае публікацыю даследавання У. Конана "Мастацкая культура Беларусі эпохі Рэнесансу", змешчаны трэці раздзел "Пачатак рэнесансавай культуры: Францыск Скарына". У сувязі з 80-годдзем Нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы А. Ахметшын запісаў маналогі А. Мілаванава ("Ці люблю я тэатр? Свой, Купалаўскі?"), М. Кірычэнкі ("Цікавасць да тэатра як да віду мастацтва яшчэ не адрадзілася"), А. Гарцуева ("Галоўныя падзеі ў нашым тэатры звязаны з беларускай драматургіяй"), Г. Гарбука ("Абыякавасць у нашай справе — смерць"), З. Белахвосцік ("Артысты-купалаўцы — гэта палітра геніяльнага мастака..."), Л. Давідовіч ("Спектакль атрымаецца, калі паміж рэжысёрам і трупай узнікне любоў"), М. Захарэвіч ("Каб слова было напоўнена шчырым перажываннем"), Л. Грамыка ("Дачыненне") аналізуе спектакль "Ладдзя роспачы" паводле У. Караткевіча ў пастаноўцы Беларускага тэатра "Лялька". Пра персанальную выставу В. Песіна "Колер у акне", што праходзілаў у Палацы мастацтва ў галерэі Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта (Мінск) разважаюць студэнты гэтай ВНУ А. Харак ("Ад кветкі да... Гісторыя пераўвасаблення"), Н. Зубровіч ("Паміж двума светамі. Галоўнае — колер"), А. Галета ("Праз акно"). Сярод іншых матэрыялаў нумара — "Выйсці за межы будзённага" А. Судлянкова, "Людзі і рэчы ў работах Ю. Пэна" Н. Гулідавай, "Зацікаўлены позірк знутры" А. Тарановіча, "Праваўнікі Себасцьяно Сальгада" Н. Бекус-Ганчаровай, "Дзейснае падзвіжніцтва. Духоўныя пошукі Дзмітрыя Растоўскага і цудадзейныя святыні" Алены Яскевіч, "Кераміка агню" В. Угрыновіч, "Патрыёты Замкавай гары" Д. Падбярэзскага, "Міхал Ельскі як даследчык гісторыі музычнага мастацтва Беларусі" А. Сапранковай, "Неспазнанае неба інсітнасці" Г. Багданавай, "Рынкавай філасофіі не мінуць" Я. Ленсу, Ф. Вількіна і А. Цехановіча. Ёсць "Дыскаграфія", "Хроніка мастацкага жыцця", "Старонкі календара: кастрычнік 2000".**

ПАДЗЕІ

***Вядома, 65 — не юбілей. Проста прыгожая, амаль "круглая" лічба. Ці варта яе адзначаць, тым больш, калі пяць гадоў таму была сапраўды юбілейная дата, у звязку з якой спраўдзілася не толькі гожае мастацкае свята, але і значная падзея культурнага жыцця, звернутая да вытокаў, традыцый і — да перспектывы?.. Аднак пяць гадоў для навучальнай установы мастацтва — гэта істотна: выяўляюцца новыя таленты, сталеюць учора яшчэ зусім юныя "зорачкі", назіраецца змена пакаленняў. Словам, юбілей — не юбілей, а ёсць падстава для роздуму, для высноў і для свята.***

# Не ганарыцца. Радавацца! І працаваць...

### СВЯТА Ў РЭСПУБЛІКАНСКІМ КАЛЕДЖЫ ПРЫ БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ МУЗЫКІ

Сваё 65-годдзе Рэспубліканскі каледж пры Беларускай акадэміі музыкі адзначаў два дні: урачыстай акцыяй у родных сценах і святочным канцэртам у Вялікай зале сталічнай філармоніі. Размаітыя ўражанні, дапаўняючы адно адно, знітоўвалі абедзве гэтыя падзеі ў цэласную імпрэзу з пэўным колам удзельнікаў і гасцей. Вось толькі падчас філарманічнай вечарыны кола гэтае было шырэйшае, што адчувалася і ў насычанай канцэртнай праграме, і ў перапоўненай глядзельнай зале.

У афіцыйных выступленнях (першы намеснік міністра культуры Беларусі У. Рылатка, рэктар каледжа У. Кузьменка), у неафіцыйных размовах нямала гаварылася пра сапраўдны феномен беларускай культуры — створаную ў 1935 г. школу для даравітых дзяцей, якой было наканавана ўзгадаваць не адно пакаленне высокаадукаваных прафесійных музыкантаў і тым самым забяспечыць грунтоўны еўрапейскі ўзровень айчыннага выканальніцкага мастацтва, музычнай педагогікі ды асветніцтва.

Сёння ўжо нават спецыялісты ледзь паспяваюць сачыць за поспехамі ды міжнароднымі творчымі перамогамі выхаванцаў унікальнай навучальнай установы, доўгі час вядомай як спецыяльная музычная школа-адзінаццацігодка пры Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, потым — пад назвамі "ліцэй", "гімназія-каледж пры Беларускай акадэміі музыкі". Але калі імёны музычных "зорачак" усё ж трапляюць на афішы, на старонкі друку ці ў эфір, дык імёны тых, чыімі намаганнямі, досведам, талентам трымаецца сістэма адукацыі і выхавання ў каледжы, "засвечваюцца" ў лепшым выпадку на другім плане. Вось чаму такой кранальнай атрымалася цырымонія іх ушанавання — уручэнне афіцыйных узнагарод выдатным педагогам.

Сярод іх — адзначаныя Ганаровым знакам Міністэрства культуры Беларусі настаўнікі многіх таленавітых музыкаў Яўген Пукст (фартэпіяна) ды Леў Куляшоў (скрыпка), Ганаровай граматай міністэрства — Наталля Ташчыліна (фартэпіяна), граматамі — Ірына Сцяпанава (віяланчэль), Любоў Бондарава (фартэпіяна) ды інш. Ганаровай граматай Міністэрства адукацыі ўзнагароджаны педагог-віяланчэліст, стваральнік і мастацкі кіраўнік знанага Камернага аркестра каледжа Уладзімір Перлін. Адзначаны педагагічныя ды творчыя дасягненні школы і Ганаровай граматай Савета Міністраў краіны.

●

Падчас урачыстай акцыі ў зале каледжа дамінавала гучанне харавой культавай музыкі. Яе выконваў аб'яднаны калектыў — Капэла хлопчыкаў пад кіраўніцтвам У. Глушакова ды "Спяваючыя музыканты" пад кіраўніцтвам А. Мазуравай, а таксама парафіяльны хор Свята-Петрапаўлаўскага сабора сталіцы пад кіраўніцтвам І. Дзянісавай (яго пеўчыя і рэгент — колішнія выхаванцы і цяперашнія педагогі каледжа). Такі акцэнт у канцэртнай праграме быў зроблены ў сувязі з візітам асаблівага госця — Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха Усяе Беларусі.

Уладыка Філарэт, які ўпершыню наведаў каледж (і, дарэчы, назваў сябе равеснікам гэтай навучальнай установы), звярнуўся да прысутных з віншавальным словам. І падзяліўся ўспамінамі свайго дзяцінства, юнацтва, звязанымі з падобнай творчай атмасферай — у музычнай школе ў Маскве, дзе ён таксама спяваў у хоры ды граў на кантрабасе. Вось толькі ў той час навучэнцы не мелі магчымасці спрычыняцца да духоўнай музыкі: хаця зрэдчас гэта і прарывалася ў спевах малітоўных мелодый без слоў, але само Боскае слова было невымоўнае, пад забаронай. Дзякуй Богу, цяпер іншы час, і наша музычнае выхаванне можа паўнавартасна развівацца, сілкуючыся багатай духоўнай спадчынай.

Усе выпускнікі, выхаванцы каледжа, безумоўна, ведаюць адзін з галоўных спецыяльных падручнікаў: "Элементарную тэорыю музыкі" В. Вахрамеева. Аўтар — бацька нашага Мітрапаліта. Нядаўна ў будынку Беларускага Экзархата (пры ўдзеле навучэнцаў каледжа) адбылася прэзентацыя выдання падручніка царкоўных спеваў для царкоўных школ, складзенага В. Вахрамеевым. Гэты падручнік прынёс у дар бібліятэцы каледжа ўладыка Філарэт, падараваўшы і перавыданне "Обихода нотного церковного пения", т. зв. "пінскага абыходу", выдадзенага ў 1929 г. з благаславення айца Аляксандра Пінскага і Палескага. Менавіта гэтымі нотамі карыстаўся В. Вахрамееў, складаючы свой падручнік для царкоўных школ.

А яшчэ казаў уладыка Філарэт пра настаўніцкі абавязак і працу педагога: без любові да вучня — навучыць нельга, мае быць пачуццё прывязанасці, заклапочанасці лёсам выхаванца. Тое ж — і з боку вучня: павінна быць любоў да шляху, які абраў, да мастацтва, прывязанасць і ўдзячнасць да настаўніка. Гэту гармонію адчуў у "сімфоніі калектыву навучэнцаў і настаўнікаў" высокі госць каледжа і пажадаў ёй надалей гучаць у сценах музычнага дома.

●

А ў літаральным сэнсе: **што** гучала на святы імяніннікаў? Класіка. Розных эпох і народаў. Ад І. С. Баха — да І. Лучанка. Ад Гайднавай "Серэнады" — да сюіты мінскага дырыжора і педагога В. Мнацаканава з музыкі "чарлічаплінскіх" кінафільмаў. Беларускіх твораў — ад цяпер ужо адкрытага, адроджанага барока да цяпер ужо досыць годна асвоенага постмадэрнізму — чамусьці бракавала, хаця яны не першы год жывуць на канцэртнай эстрадзе, уключаюцца і ў педагагічны рэпертуар, моладзь іх іграе. Нібыта нейкае "заганнае кола" абмяжоўвае айчынных музыкаў акадэмічнымі стэрэатыпамі 19-га стагоддзя і не дазваляе ў самы адказны момант паказаць лепшае сваё. Граць, слухаць, любіць або хаця б паважаць сваё — таксама навука і таксама мастацтва. Няўжо для гэтага настаўнікаў няма?

●

Сярод выканаўцаў былі зусім яшчэ юныя надзеі: упэўненыя на вялікай сцэне і ўжо няблага "ўзброеныя" тэхнічна другакласнікі Павел Нетук (фартэпіяна), Ваня Карызна (віяланчэль), струнны ансамбль з маленькай салісткай-скрыпачкай Варварай Цітовай. І — лаўрэаты міжнародных конкурсаў, у тым ліку стыпендыяты Спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі: дуэт піяністаў Міхала Мацака ды Ганны Юхо, знакаміты скрыпач Алег Яцына, крыху старэйшы ад яго і таксама знаны скрыпач Арцём Шышкоў з Дашай Мароз у ролі чулага партнёра-канцэртмайстра, бліскучая ды артыстычная цымбальная "сям'я" — Вольга ды Таццяна Кукель...

У адным канцэрце можна было паслухаць сур'ёзнага, самапаглыбленага выканаўцу Шапэна — Цімура Шчарбакова і ні з кім не параўнальнага Аляксандра Музы-



*Калектыў каледжа вітае першы намеснік міністра культуры Беларусі У. РЫЛАТКА*



*На сцэне — Капэла хлопчыкаў і Струнны ансамбль самых юных навучэнцаў*



*Слова ўладыкі Філарэта...*

кантава, раяль якога азваўся імклівымі ды магутнымі гукамі рахманінаўскага До мінорнага эцюда-карціны ў той няўлоўны момант, калі пальцы яшчэ нібыта і не паспелі крануць клавіятуру: іграў... іграючы!

Сакавіты пачастунак для меламанаў падрыхтавалі, як заўсёды, маэстра У. Перлін са сваім Камерным аркестрам. Тут і ўжо названая "Чаплініяна" з маляўнічымі туццi, з поўнымі гумару сола ды інструментальнымі дыялогамі (напрыклад, "перазовы" скрыпача А. Яцыны ды піяніста А. Музыкантава, якія на сцэне нават не бачылі адно аднаго, седзячы ў розных, скажам так, не пунктах). Тут і агністая "Хора" з цымбалісткай Алесяй Шагун ды скрыпачкай Ксеняй Бельцюковай. Тут і вялікая музыка "Струннай серэнады" П. Чайкоўскага...

●

Гэта быў рэдкасны выпадак у канцэртнай практыцы, калі разам з імёнамі выканаўцаў абвяшчаліся імёны іх настаўнікаў: У. Няхаенкі, Л. Васільевай, У. Перліна, Р. Крывеля, Р. Падойніцынай, І. Галачкінай, З. Качарскай, А. Гужалоўскай...

Зразумела, далёка не ўсе, хто мог упрыгожыць свята, атрымалі магчымасць выступіць. Далёка не ўсе вартыя публічнага шанавання імёны былі названы.

Далёка не ўсё гладка ішло падчас урачыстасці. Некаторыя мае калегі, трапіўшы на вечарыну ў філармонію па персанальных запрашэннях з вызначанымі месцамі, мусілі пакінуць яе, не дачакаўшыся пачатку, бо на тых месцах аказаліся людзі з білетамі, купленымі ў касе, а спроба знайсці вольныя крэслы ці паразумецца з філарманічнай адміністрацыяй была марнай.

Мне і самой давялося прайсці, толькі з іншым вынікам, зняважлівую працэдуру "перасадак". Хаця куды больш засмуцілася, калі сярод салістаў, кожны з якіх быў адораны пасля выступлення букетам ці шакаладкай (гэтую цырымонію кранальна спраўлялі малалетнія паклоннікі ды паклонніцы), аказаўся толькі адзін, якому не дасталося ні кветачкі: Саша Музыкантаў...

На фінальны нумар філарманічнай праграмы публіка зрэагавала добрай, замілаванай (ды не без іроніі) усмешкай. Да Камернага аркестра далучылася група навучэнцаў-духавікоў і зводны хор каледжа. Да парталаў выкацілі абодва раялі, за якімі ўладкаваліся выпускнікі, адпаведна, 1956 і 1966 гадоў — народны артыст СССР Ігар Лучанок і заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Уладзімір Кузьменка. Дырыжыраваў выпускнік 1960 г. заслужаны артыст Беларусі Уладзімір Перлін. Манументальная стракатая масоўка выконвала лірыка-патрыятычную песню І. Лучанка на верш Л. Драньки-Майсюка "Радзіма Беларусь". І ў гэтым гучным, густым, як алейныя фарбы, шчодрым пэндзлем кінутым на тонкае палатно, у гэтым парадна-маналітным апафеозе ўдалося ўчуць-разабраць ключавы радок: "Мы не згубіліся ў свеце..."

●

Пасля ўсяго ўспомнілася, што казаў Мітрапаліт, перш чым блаславіць навучэнцаў і настаўнікаў каледжа: "Усе таленты — гэта дар вашай прыроды. І не ганарыцеся сваімі поспехамі, а радуйцеся ім, бо ў вашай творчасці ўслаўляецца Стваральнік, Бог, які надзяліў вас рознымі талентамі. Не ганарыцеся, але працуйце над развіццём талентаў, якія даў вам Гаспад. Бог вам у помач".

**С. БЕРАСЦЕНЬ, выпускніца 1972 г.**

*Фота М. ПРУПАСА*

ТЭАТР

# "Худы воўк" — Ігар Забара

***Тры гады таму ў Мінску памёр тэатр. Адзін з самых папулярных і самабытных. Альтэрнатыўны. І тры гады таму на яго рэштках нарадзіўся новы тэатр, які ўзяў сабе не менш красамоўную назву — Малы. Два спектаклі — "ART" і неўміручая "Камедыя...", два штатныя акцёры — сапраўды, не шмат. Але глядацкая цікавасць да тэатра не падае, наадварот: на спектаклях — па-ранейшаму поўныя залы. "ART" па п'есе французкі Ясміны Рэза ў пастаноўцы Мікалая Пінігіна стаў сапраўды культавым і сабраў неблагі ўраджай фестывальных узнагарод. Пра тое, што адбываецца зараз у Малым тэатры, расказвае яго мастацкі кіраўнік Ігар Забара (ён жа Чорт з "Камедыі...", ён жа Марк з "ARTа").***

**— Ігар, ты не шкадуеш, што тады, тры гады таму, узяў на сябе адказнасць за людзей і тэатр не ў самы лепшы для яго перыяд?**

— Ні ў якім разе. Але я перажываю, што зараз не магу забяспечыць працай сваіх "двух з паловай" штатных акцёраў: Святлану Нікіфараву і Анатоля Голуба. Справа ў тым, што я не хачу апускаць планку. Страшна зрабіць нешта горшае за "ART". Прапаноў вельмі шмат і ад нашых, і нават ад маскоўскіх рэжысёраў, амаль кожную нядзелю драматургі мне прыносяць свае п'есы. Але да гэтай пары я не адважваўся. Канешне, можна рабіць па 18 спектакляў у месяц, толькі навошта пладзіць пасрэдныя пастаноўкі? Каб нехта сказаў: так, яны шмат выпускаюць, малайцы? Я шукаю канкурэнта Пінігіну, але пакуль яго не бачу (даруйце, калі каго пакрыўдзіў). Мы цудоўна папрацавалі з ім на "Дотыку" Патрыка Марбера, у нас ёсць планы на будучыню, але зараз паводле кантракта ён не мае права супрацоўнічаць ні з якой іншай антрэпрызай, акрамя "Альфа Радыё". Але і мы не хочам стаяць на месцы: нарэшце пачалі рэпеціраваць новы спектакль — не хачу гаварыць пакуль пра яго, бо вельмі баюся сурочыць. Гэта будзе псіхалагічная "штучка", больш камерная за "ART" і разлічаная адпаведна не на Дом афіцэраў і нават не на Купалаўскі тэатр. Маркую, што прэм'ера адбудзецца яшчэ да новага года.

**— Хто з былога Альтэрнатыўнага застаўся ў Малым тэатры?**

— Акрамя мяне засталіся вышэйзгаданыя Толік Голуб, Света Нікіфарава, светааператар Віталь Кастальцаў, касцюмер Людміла Кімстач. Гэта тыя, хто ў нас працуе зараз. Але куды больш народу з ліку "альтэрнатыўшчыкаў" настальгія прыводзіць да нас папросту ў госці. Упэўнены, многія з іх з задавальненнем бы ў нас працавалі — і той жа Артур Федаровіч (ён цяпер у "Дзеі"), і Алег Корчыкаў. Толькі Ганна Лягчылава адарвалася ад калектыву — яна зараз у Маскве, мяне "перезвездила". Яўген Жураўкін заўсёды згаджаецца прыязджаць са свойго Севастопаля іграць Давідку ў "Камедыі..." Дарэчы, Артур Шуляк (Дзёмка ў тым жа спектаклі) падаў ідэю сабраць пад Новы год усіх нашых сяброў ды адыграць "Камедыю..." былым, зорным складам.

**— У Альтэрнатыўнага было сваё пастаяннае памяшканне. Гэта дазваляла ўключаць спектакль у цэлы шэраг мерапрыемстваў: праводзіць выставы, джэм-сейшны, канцэрты рок-музыкаў. У Малога тэатра няма свайго памяшкання. Ты спрабаваў яго адшукаць ці арэнда — больш выгодная справа?**

— З рэпертуарам у два спектаклі ўтрымліваць уласнае памяшканне — гэта вар'яцтва. Лепш мы будзем яго арандаваць, тым больш што ў Мінску ёсць тры цудоўна "раскручаныя" пляцоўкі: Цэнтральны дом афіцэраў, Купалаўскі тэатр і Палац культуры імя Дзяржынскага. Дзякуй Богу, іх кіраўнікі — палкоўнік Аляксей Дарохін, Генадзь Давыдзька і Віктар Мікульчык — людзі, у добрым сэнсе, "не далёкія ад мастацтва" і вельмі нам сімпатызуюць.

**— Апошнім часам Мінск наведала шмат вядомых акцёраў. Мяркуючы па афішах, у гэтым ёсць і твая заслуга?**

— Мы сапраўды стварылі прадзюсерскі цэнтр "Малы тэатр". Прывозілі С. Юрскага, А. Філіпенку, В. Саломіна, К. Васільеву, зараз будзе выступаць М. Карачанцаў. У адрозненне ад таго ж "Клас-Клуба" мы займаемся не эстрадай, а менавіта тэатральнымі камернымі рэчамі. Праўда, наш новы праект стаіць крыху ўбаку ад тэатра: гэта будзе новы джазавы фестываль. Чаму б не паспрабаваць? Я люблю джаз і хачу арганізаваць зноў жа камерны, зарыентаваны на вакал фестываль. Ён будзе называцца "RADO jazz", бо генеральны спонсар яго — гандлёвая марка швейцарскіх гадзіннікаў RADO. Ён будзе праходзіць 17—19 лістапада ў Доме афіцэраў. У ім возьмуць удзел цудоўныя калектывы і выканаўцы: "Камерата", "Другое набліжэнне", "Джо Лок і Ігар Бутман", трыо Сяргея Манукяна, літоўская джазавая спявачка Неда, "Green Stream".

**— Ці ездзіць Малы тэатр на гастролі, бярэ ўдзел у фестывалях?**

— Мы толькі што вярнуліся з штогадовага міжнароднага тэатральнага фестывалю "Залаты леў". Яшчэ ў бытнасць Альтэрнатыўнага мы вазілі туды "Камедыю...", за якую нават атрымалі Гран-пры, паказвалі спектакль "Кароль памірае" паводле Іанэскі. На гэты раз павезлі "ART". Шчыра кажучы, спачатку мы баяліся, што нас паб'юць за рускую мову — узгадалі вядомую гісторыю пра зрыў спектакля з Ляій Ахеджакавай і Багданам Ступкам. Міністр культуры Украіны размаўляе па-руску? Ганьба! Перад тэатрам тады наладзілі пікет, спектакль не адбыўся. Журавель з Манаевым мяне "падкалвалі": ты ж валодаеш украінскай, скажы, што набыў не белую карціну (хто бачыў спектакль — мяне зразумее), а кавалак... сала. З такімі тануткімі прожылкамі — пра іх і будзем спрачацца. Але нас і так цудоўна прымалі! Я нават прывёз з сабой бюлетэнь фестывалю са словамі захаплення. Мы яшчэ не ведаем вынікаў конкурсу — нам давялося тэрмінова вяртацца ў Мінск, іграць запланаваны спектакль. Наўрад ці мы атрымаем Гран-пры і на гэты раз — пасля нас павінен быў прыехаць знакаміты Р. Віцюк. Але вынік для нас і не галоўны, бо ездзілі мы не за прызам.

**— Гады тры таму, арганізуючы Малы тэатр, ты казаў і пра яго, і пра сябе: "Ваўка ногі кормяць". Ты не стаміўся бегаць за кавалкам хлеба?**

— Не, не стаміўся. Я параўноўваю наша жыццё з жыццём дзяржтэатраў — мне нашае больш падабаецца. А бег толькі загартоўвае. Бачыш, які я худы? Ваўкі тоўстымі не бываюць, і мне гэта таксама даспадобы.

**З "худым ваўком" размаўляла ды піла каву Юлія ПАЛАЧАНІНА**

***На здымку: Ігар Забара (злева), у спектаклі "Знайсці Элізабэт", Малы тэатр.***

***Фота У. САПАГОВА***



# За "Танцамі" — "Танцы"...

Цыклічных праектаў для аматараў беларускага року ў краіне не так шмат. І таму з такім нецярпеннем чакаўся працяг амбітных "Вольных танцаў", што на гэты раз былі прысвечаны творчасці, у асноўным, маладых, перспектыўных беларускамоўных гуртоў. Але тых, хто набыў на яе квіткі, чакалі два сюрпрызы...

Па-першае, з-за няўдзелу ў канцэрце гуртоў "UR'IA", "ZET", "EXIST" і "Новае Неба" (апошнія тры каманды знаходзіліся ў сумесным з культавым польскім гуртом "Пралетарыят" туры па Польшчы) адбылася замена: слухачоў чакалі рытмы "Зьніча" ды барысаўскіх "Грошаў".

Па-другое, квіткі, набытыя на "Вольныя танцы: частка ІІ", сталі падставай для зніжак коштаў на прэзентацыю новага беларускамоўнага музычнага часопіса "POST'R" з удзелам адсутных калектываў.

І гэты факт дадаў імпэту слухачам, якія з энтузіязмам сустрэлі першы гурт "ТРОІЦА" пад кіраўніцтвам Івана Кірчука. Пра экспрэсіўныя фолкавыя галасы, вынаходлівыя аранжыроўкі музыкаў у беларускім і замежным друку пісалася шмат. Выступ на "Вольных танцах" гэтага гурта яшчэ раз пацвердзіў — для зацікаўленых беларускім фальклорам і рокам існуе шмат магчымасцяў сказаць сваё адметнае слова, здабыць верных прыхільнікаў сваёй творчасці і тут, у Беларусі, і за мяжой.

На жаль, сярод беларускамоўных гуртоў ужо сустракаюцца і такія, якія звяртаюцца да роднага слова з кан'юнктурных меркаванняў. Маю на ўвазе выступы такіх гуртоў як "ГРОШЫ" ды "HAPPI FACE", у рэпертуары якіх "для галачкі" колькі песень на роднай мове прысутнічае. Усё астатняе — прыклад кан'юнктурнага касмапалітызму. Асцярожна, хлопцы, беспрынцыповасць, непавага да каранёў загубілі столькі талентаў у Беларусі!

У прынцыпе, такія правінцыйныя хітрыкі ў беларускамоўным рок-руху — з'ява рэдкая і непрымальная для слухачоў. У гэтым пераконваешся, калі сочыш за выступамі прынцыповых, беларускамоўных гуртоў. Пацвердзіў сваё добрае імя фолк-дзэавы "ЗЬНІЧ", які толькі што вярнуўся з Кіева, дзе даў некалькі канцэртаў. Добры вынік выступаў невыпадковы — вельмі ўдала ў канву гучання гурта ўпісалася вакалістка Наталля Вальнец. Знікла скаванасць, залішняя аглядкі на лідэра Алеся Таболіча, што відавочна абмяжоўвалі энергетыку гурта. Зараз з'явілася ўпэўненасць, адчуванне дынамікі і еднасці калектыву. Зала з энтузіязмам успрыняла іх лепшыя песні "Вол бушуе", "Што за ўсё тлусцейшае", "Праважала маці сына"... Засталося жаданне паслухаць песні "Зьніча" ў сумесным выступе, напрыклад, з аркестрам Г. Цітовіча на манер моднага альянса гурта "METALLICA" ды Лонданскага сімфанічнага аркестра!

Наступным фолк-рокавую эстафету падхапіў магілёўскі праект "АКРУГА ВОЛЬНАГА МАСТАЦТВА" ("АВМ"). Для мінскіх слухачоў гэты калектыў стаў сапраўдным адкрыццём цыкла: пад вясёлыя ды меладычныя рок-найгрышы магілёўцаў добра танцавалася на працягу ўсяго выступу "АВМ". Бачыце, гурт толькі пачаў дрэйф ад безаблічнага world-music да беларускіх вытокаў!

Калі б адбыўся конкурс на званне самага арыгінальнага ды "прасунутага" маладога гурта, дык, хутчэй за ўсё, яго б заслужыў гурт "Без білета". Гурт, які ўжо намала гастраляваў па Еўропе, трэба бачыць і чуць! Меладычная іх песня-рэфрэн "Мая краіна — Беларусь" стала самым запамінальным хітом вечарыны.

Завяршыць другую частку "Вольных танцаў" выпала калектывам з "жаночым пачаткам". Настаўніцы з гурта "Long play" прапанавалі слухачам і свой вясёлы мікст "Цячэ вада ў ярок" — "Багемная дзяўчынка", а таксама беларускамоўную "Купальскую", антынаркатычныя "Рамонкі". Усе гэтыя стылёвыя эксперыменты выглядалі на жаночую версію папулярнага гранжу з выразнай фальклорнай асновай. Ад музыкі "Long Play" дыхала непасрэднасцю, раскутасцю, характэрнай для эпохі Вудстока, хіпі...

Кантрастам музыцы "Long Play" загучаў пацяжэўшы, ажно да межаў хард-рока, "Postscriptum". І хоць цяжкай музыкі на імпрэзе гучала дастаткова, "Postscriptum" не падаўся залішнім і быў сустрэты як і належыць уладальніку Гран-пры "Басовішча-2000".

Вакалістка Ю. Сеўрук, гітарыст В. Марголін, іншыя "постскрыптумы" давялі слухачам, што новая праграма гурта абяцае стаць заўважнай музычнай з'явай гэтага года. Песні з яе — "Званы", "Шчодры вечар", "Пазаўчора" ўразілі слухачоў экспрэсіяй, драйвам, фолкавай рытмікай і мелодыкай. Яскравая кода для доўгачаканага канцэрта, які дазволіў зрабіць некаторыя высновы. Галоўная з іх — беларускія фальклор і мова застаюцца крыніцамі натхнення шмат якіх тутэйшых рок-музыкантаў малодшага веку. Да таго ж, у іх з'яўляюцца свае зацікаўленыя слухачы, якія сочаць за творчасцю сваіх куміраў. Так што лідэрам хутка прыйдзецца пасунуцца на беларускім рокавым Алімпе — маладыя ідуць!

**Анатоль МЯЛЬГУЙ**

# У чаканні беларускага Віні Пуха

***На гэты раз госці на "лімаўскую" гарбату сабраліся для гаворкі на нетрадыцыйную тэму — пра беларускую дзіцячую літаратуру, дакладней, літаратуру для малодшага ўзросту. У гасцёўні сабраліся галоўны рэдактар часопіса "Вясёлка", старшыня Беларускага дзіцячага фонду пісьменнік Уладзімір ЛІПСКІ, літаратуразнаўца Маргарыта ЯФІМАВА, намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Бярозка" паэт Алесь БАДАК, настаўніца пачатковых класаў гімназіі-каледжа мастацтваў Зінаіда КАЧАНОЎСКАЯ, супрацоўнік часопіса "Першацвет", паэт і перакладчык Сяржук МІНСКЕВІЧ і гаспадыня гасцёўні рэдактар аддзела крытыкі "ЛіМа" паэтэса Людміла РУБЛЕЎСКАЯ.***

**Людміла Рублеўская.** Дзіцячая літаратура, асабліва літаратура для самых маленькіх — дзіўны феномен, дасюль, здаецца, у кантэксце нашай літаратуры да канца не вывучаны і не асэнсаваны. Калыханкі, забаўлянкі, пацешкі стаяць ля вытокаў літаратуры ўвогуле... Перадача дзіцяці ведаў, радавых таямніцаў, магічныя рытуалы — рэшткі гэтага дасюль захаваліся ў дзіцячай літаратуры фальклорнага паходжання ці створанай пад яе ўплывам. З другога боку, для дзяцей пісалі самыя "крутыя" авангардысты — Хармс, Введзенскі, і іхнія творы для маленькіх зноў жа нясуць на сабе адбітак тае сакральнасці, шматслойнага падтэксту. Але літаратура, пра якую мы сёння гаворым, нярэдка рабілася "запаведнікам" бессаромнай халтуры — бо ёсць няправільнае перакананне, што для маленькіх дзяцей пісаць вельмі лёгка, любы "дарослы" пісьменнік з гэтым справіцца. А ці можна вылучыць як асобны від літаратуру для дзяцей? Бо сапраўдны літаратурны твор павінен быць цікавы і малечы, і даросламу эстэту. Пытанне ў кантэксце нацыянальнай літаратуры: ці павінна браць на сябе дзіцячая літаратура тыя дадатковыя функцыі, што нясе на сабе "дарослая", з-за сваёй беларускамоўнасці вымушаная , акрамя непасрэдна эстэтычнай, выхаваўчай функцый, выконваць яшчэ і функцыю публіцыстычную, асветніцкую, спрыяць самаўсведамленню нацыі? А колькі праблемаў у "незапоўненасці нішаў" нацыянальнай дзіцячай літаратуры — дзе беларуская духоўная, рэлігійная, энцыклапедычная, псіхалагічная літаратура для дзяцей?

Нельга абмінуць і такі аспект, які дагэтуль не ўлічваўся: кантэкст часу. Складваецца ўражанне, што многія з тых літаратараў, што пішуць для дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту, не ўяўляюць, для каго яны пішуць. Сённяшнія дзеці, асабліва тыя, што нарадзіліся ў горадзе, гадуюцца пад уплывам масавай культуры замежжа і татальнай камп'ютэрызацыі, адрозніваюцца ад ранейшых пакаленняў дзетак. У іх іншае стаўленне да кнігі ўвогуле. Можа быць, ім патрэбная і іншая літаратура? Ёсць жа тэорыя, што сёння адбываецца новы Рэнесанс, аналагічны таму, што адбыўся пяцьсот гадоў назад і змяніў сярэднявечную ментальнасць на адраджэнскую, выклікаў выбух інтэлектуальнай і духоўнай энергіі...

**Маргарыта Яфімава.** Існуе тэрмін "дзіцячы фальклор", і яго ніхто не аспрэчвае. Так ёсць і дзіцячая літаратура. Вядома, кожнае пакаленне дзяцей мае свае адрозненні. Але нараджаюцца ўсе немаўлятамі.У Карнея Чукоўскага ёсць думка: у якім пакаленні ні нарадзілася б дзіця, ніхто не надумаецца адразу карміць яго біфштэксамі. Бо дзіцяці патрэбна малако. Натуральнае малако яго маці. Нават і тым дзецям, якіх ужо сёння пачалі вырошчваць у прабірках...

**Алесь Бадак.** Безумоўна, я з вамі згодны. Але фальклор — гэта тое зачараванае кола, з якога наша беларуская літаратура ніяк не можа вырвацца. Раіса Баравікова неяк сказала мне: "На жаль, сучасная беларуская літаратура — не сучасная". Калі мы пачытаем сённяшнюю айчынную дзіцячую літаратуру, мы не ўбачым у ёй ні камп'ютэраў, ні відэамагнітафонаў, ні касмічных караблёў. Усе тыя ж рэаліі, што і сто гадоў таму.

**Уладзімір Ліпскі.** А навошта вырывацца з фальклору? У які б "космас" ні падымаўся чалавек, ён вяртаецца на сваю грэшную, чароўную зямлю. Тут яго карані, вытокі. На першым этапе жыцця чалавек павінен спазнаць хараство прыроды, ласку матчыну. Не спяшайцеся хіліць яго ў рабства "відзікаў".

**А. Бадак.** Па аналогіі з малаком — дзіця ж не будзеш да школы адным малаком карміць. Яго рацыён трэба разнастаіць і разнастаіць.

**М. Яфімава.** Фальклор — не толькі крыніца, ад якой мы набіраемся сілаў і мудрасці, фальклор — гэта талісман, які аберагае нашу літаратуру. І сёння фальклорнымі традыцыямі трэба асабліва даражыць. Гады два таму на семінары па пытаннях зместу і афармлення сучаснай дзіцячай кнігі, які праводзіўся інстытутам імя Гётэ, я слухала выступленні нямецкіх пісьменнікаў і мастакоў-афарміцеляў дзіцячых кніг. Яны адзначалі, што нямецкая дзіцячая літаратура ў большасці зводзіцца да коміксаў, што ідзе амерыканізацыя культуры. І вельмі шкадавалі, што іх дзіцячая літаратура страчвае сувязь з народнай творчасцю.

**А. Бадак.** Я меў на ўвазе некалькі іншае. Што пісьменнікі , нібыта абапіраючыся на фальклорныя традыцыі, ствараюць прымітыўную літаратуру, бясконца эксплуатуючы адны і тыя ж вобразы і сюжэты.

**Сяржук Мінскевіч.** Думаю, напачатку трэба адмежаваць вусную творчасць ад кніжкі. Гэта розныя рэчы.

**У. Ліпскі.** Давайце ўсё-ткі пагаворым пра тых, для каго гэтая літаратура скіравана. На Беларусі дзяцей два мільёны. З кожным годам іх на трыццаць-сорак тысяч меней. У асноўным, як мне здаецца, дзеці жывуць у горадзе. Ды і ў правінцыі далучаюцца да сучаснай тэхнікі, сучаснага тэмпу жыцця. Дык, можа, задача дзіцячай літаратуры — не вырываць іх з прыроднага асяродку, а наадварот, вяртаць да прыродных крыніцаў? Трэба ў самым малодшым узросце навучыць дзіця любіць маму, любіць дрэўца каля хаты. Калі дзіця цяпер гэтаму не навучыцца, як яно навучыца любіць тое, што мы называем Радзімай? А ўжо далей, правільна, трэба прывучаць да сучасных рэаліяў. А пакуль самая галоўная задача дзіцячай літаратуры — рабіць усё, каб захавалася мова.

**М. Яфімава.** Свет прыроды вельмі блізкі дзецям. Наша дзіцячая літаратура мае тут найбагацейшыя скарбы. Вось дынамічная, эмацыянальна-яркая заклічка Ганны Івановай:

***Сонейка, сонца,***
***Залатое донца,***
***Не хавайся ў бары,***
***А гары , гары, гары!***
***Яшчэ трошкі пасвяці,***
***Каб нам спаць не ісці.***

А вось паслухайце, якім чынам складаліся не так даўно нашы кнігі для дзяцей:

***Слава-птушка,***
***Яна хутка па краіне рушыць.***
***Адкарміла цётка Дарка***
***Больш за сотню хрушак.***

Ды і ў кнізе Ганны Івановай, паглядзіце, якія вершы ёсць, бо лічылася, што без іх нельга. Такія вершы дарослага ўгоняць у нуду.

***Ленінская справа — гэта не забава,***
***гэта наша праца!***
***Ленінская справа — гэта наша права***
***марыць і змагацца!***
***Ленінская справа — наша слава.***
***Ленінская справа — наша мова.***

Каб надрукавацца, аўтары вельмі стараліся адпавядаць ідэалогіі. І не толькі выконвалі "заказы", але і пісалі па сваёй ініцыятыве, каб далі прэмію, выдалі збор твораў. І каб не фальклор, літаратура ў гэтым афіцыёзе перастала б быць нацыянальнай.

**А. Бадак.** Пераважная большасць герояў нашай дзіцячай літаратуры запазычаная з фальклору. А паглядзім на нашых суседзяў-рускіх. Вядома, многія іхнія героі крадзеныя — той жа Нязнайка ці Доктар Айбаліт. Але ў іх ёсць героі, якіх прыдумалі пісьменнікі, ёсць казачныя гарады, краіны. А ў нас у шырокім ужытку, так, каб ведаў кожны дзіцёнак, што — адны "Палескія рабінзоны", "Міколка-паравоз" ды Несцерка?

**М. Яфімава.** Сённяшняя наша дзіцячая літаратура ўжо іншая, больш інтэлектуальная, псіхалагічная. Я магу вам назваць таксама казачных герояў і казачныя краіны. Напрыклад, краіна Рагатунья-Смехатунья Аўр'яна Дзеружынскага, Лынды-Шмынды Міколы Чарняўскага, Грыбонія Алега Мінкіна, Адваротны свет Уладзіміра Паўлава, Замак Алфавіт Уладзіміра Ліпскага...І герояў арыгінальных шмат : Дзядзька Дзякуй, цётка Каліласка, Раскідач, дзед Барадзед. А Вася Вясёлкін? Антонік-Понік?

**Л. Рублеўская.** Прабачце, але такія вобразы маюць каштоўнасць толькі ў тым выпадку, калі іх запамінаюць самі маленькія чытачы. Спытайце любога беларускага дзіцёнка, якая яго любімая казка, любімы казачны герой, якую казачную краіну ён ведае? Абсалютная большасць назаве нешта накшталт Віні Пуха .

**Зінаіда Качаноўская.** Вось вы кажаце пра значнасць фальклору. Але сёння фальклору не ведаюць ні дзеці, ні дарослыя. У "Чытанцы" для пачатковай школы ёсць раздзел: "Калыханкі, забаўлянкі". Спытайце, калі ласка, у дзяцей, ці ведае хто з іх на памяць калыханку ці забаўлянку, ці рускую, ці беларускую. Ніхто не ведае. Калі я расла, мая маці брала маю руку, гладзіла і прыгаворвала: "Ласачка-парасачка, дзе ты была?" Паказваю гэта маім вучням — раты раскрываюць. Але я маю карані з вёскі, таму магу нешта сваім вучням перадаць. А настаўніца, якая вырасла ў горадзе, працавала ўсё жыццё ў гарадской школе, сама ніколі такога не чула. У выніку — мамы фальклору не ведаюць, настаўнікі фальклору не ведаюць, дзеці не ведаюць, а вы кажаце — уся дзіцячая літаратура складаецца з фальклору. Ну а дзе, скажыце, калі ласка, і знайсці тую літаратуру? Мой настаўніцкі стаж — трыццаць адзін год, з васемнаццаці гадоў вучу дзяцей. Дваццаць гадоў выкладала на рускай мове і добра ведала рускую дзіцячую літаратуру. І цяпер магу расказаць на памяць вершы і таго ж Маршака, і Благінінай. Апошнія дзесяць гадоў выкладаю па-беларуску. Сёння я настаўнік падрыхтоўчага класа. Некалі такія дзеткі ў мяне вучылі:

***Мышка в кружечке зелёной***
***наварила кашки пшённой.***
***Всем по ложечке досталось,***
***ни крупинки не осталось.***

А паспрабуйце вывучыць з дзеткамі тое, што ёсць у мяне ў падручніку. Яно не вучыцца. А сапраўдная, добрая беларуская дзіцячая літаратура, пра якую вы гаворыце, — дык у мяне яе няма, бо ў бібліятэцы яе няма, у крамах няма, а калі і бывае, дык я рэдка цяпер магу што дазволіць сабе купіць на настаўніцкую зарплату. У нас беларускамоўная школа. Але толькі двое настаўнікаў стараюцца прыцягнуць дзяцей да беларускай літаратуры. Адна з іх, Людміла Самухіна, кожны свой урок пачынае з "Вясёлкі". І ўсе вучні яе класа выпісваюць гэты часопіс. Быў у нас у школе конкурс беларускіх вершаў. І ўпэўніліся, наколькі цяжка знайсці падобны матэрыял. У бібліятэцы мне далі толькі зборнікі Шушкевіча, Дзеружынскага і Віткі. Тое, пра што вы гаворыце, проста не даходзіць да вушэй і вачэй чытача. І расцём мы сапраўды бескарэнныя.

**У. Ліпскі.** А мы гаворым — "адраджэнне"... Вось у маіх сяброў з Літвы, Вітаса і Лаймы Баранаўскасаў, нарадзілася дачка. Дык яны тры гады ў доме размаўлялі толькі па-літоўску. Хаця маці — настаўніца рускай мовы. І ўсе яны цудоўна гэтай мовай валодаюць. Але ў прысутнасці дачкі гучала толькі літоўская мова. Яны ўдыхнулі паветра роднай культуры ў сваё дзіця. Цяпер тая дзяўчынка ведае і англійскую, і рускую мовы, і беларускую спрабуе вучыць. Але найперш яна выгадаваная на сваёй, роднай. Гэта ж расце чалавек, асоба, грамадзянін. Нашы бацькі, на вялікі жаль...

**З. Качаноўская.**...баяцца беларускай мовы.

**У. Ліпскі.** І калі ранні ўзрост "упушчаны", як бы пісьменнік ні стараўся, як бы ні намагаліся настаўнікі, пераламаць ужо выхаванае вельмі цяжка.

**С. Мінскевіч.** Ёсць сярод дзіцячых вершаў такія, якія немагчыма перакласці на іншыя мовы. Гэта своеасаблівыя формулы, якія лёгка запамінаюцца. Напрыклад, польская "качка-небарачка", "panie chrzanie, niech pan przestanie". Калі б такія ўдалыя вобразы з"явіліся ў нас, гэта таксама б спрыяла цікавасці да нацыянальнай культуры. Дзеці паўтараюць іх самі. Але такія карацелькі трэба прыдумляць, шліфаваць, пасля распаўсюджваць, каб іх усе ведалі...

**М. Яфімава.** Хапае ў нас такіх качак-небарачак: качачка-цацачка, муха-трапятуха, гусачок-рыбачок, пэцкала-вэцкала, маржанятка-мурзанятка, цётка Слізготка... І вершаў-карацелек хапае, цэлы том можна выдаць...

**У. Ліпскі.** Мне сказалі, што ў Мінску ў наркалагічным цэнтры зарэгістраваны васьмігадовы наркаман. Якім фальклорам яго выхаваеш, якой літаратурай?! Дзе яго бацькі? Хто пачытае яму казкі?

**М. Яфімава.** Чаму дзеці любяць казкі? Таму што казка дае дзіцёнку магчымасць перажыць радасць перамогі дабра над злом. Яны ведаюць, што нават у самай страшнай казцы ўсё скончыцца добра. Мне ўспамінаюцца словы Алены Васілевіч: "Дзяцей трэба не толькі любіць, іх трэба берагчы". Гэтая ж думка гучыць і ва ўсіх творах Уладзіміра Ліпскага. Важна падтрымаць прыроджаны дзіцячы аптымізм. У нас ёсць добрыя гумарыстычныя вершы, дарэчы, і пра тых дзяцей, што набылі звычкі бізнесменаў. Ці пра хлопчыка, у якога аж тры рукі — трэцяя рука яго не слухаецца, бярэ чужыя рэчы.

**С. Мінскевіч.** Дзеці могуць гэта не ўспрыняць.

**М. Яфімава.** Цудоўна ўспрымаюць!

**Л. Рублеўская.** Вядома, дзіця ў школе ці садку паслухае такі вершык, скажа, што спадабалася. Тады прыйдзе дадому, выкіне пачутую мараль з галавы, уключыць тэлевізар і будзе глядзець, як Аладзін на дыване лётае.

**А. Бадак.** Мы зараз нават не ўсведамляем, як губляем свайго чытача. Цяпер гэта адбываецца з асаблівай хуткасцю. Раней, прынамсі, дзіцячая літаратура была дэфіцытам, і да любой кніжкі ставіліся з павагай. А сёння ж у кнігарнях усё імі завалена! Плюс камп'ютэр, плюс дзесяць праграм па тэлебачанні... Усё, што вы цытавалі, цудоўна, але гэта касметычнае ўмяшанне. А зараз патрэбны, умоўна кажучы, хірург. Пісьменнік, выдавец, дзякуючы ўмяшальніцтву якога ў нас з'явіліся б дзіцячыя кніжкі на еўрапейскім узроўні.

**С. Мінскевіч.** Трэба прыдумаць беларускага Віні Пуха.

**У. Ліпскі.** Я згодны. Папулярных герояў дзіцячай літаратуры ў нас усё ж мала.

**З. Качаноўская.** Зноў вяртаюся да таго, што дзеці не ведаюць літаратуры ўвогуле.

**А. Бадак.** І сёння гэтую праблему адны настаўнікі і пісьменнікі не вырашаць, калі не падключыцца тэлебачанне. Калі вы бачылі апошні мультфільм, пастаўлены па беларускім сюжэце?

**М. Яфімава.** А дзе на тэлебачанні рэклама беларускай дзіцячай кніжкі?

**А. Бадак.** І яшчэ праблема. Няма сур'ёзнага параўнаўчага аналізу таго, што робіцца ў дзіцячай літаратуры ў нас і ў свеце. Гадоў дзесяць таму, калі адкрываліся новыя часопісы, нікому не прыйшло ў галаву адкрыць часопіс па тыпу расійскай "Дзіцячай літаратуры".

**М. Яфімава.** Згодна, такі часопіс быў бы вельмі патрэбны. І цяпер ёсць добрая задума — адкрыць Дом дзіцячай кнігі. Хаця б адзін на ўсю Беларусь. І хацела б яшчэ раз падкрэсліць сваю думку: для дашкольнага й малодшага школьнага ўзросту добрай літаратуры ў нас нямала, асабліва ў паэзіі. Але і ў прозе ёсць значныя здабыткі.

**У. Ліпскі.** А вы заўважце, толькі што выйшла цудоўная кніжка для дзяцей вядомага "дарослага" пісьменіка Анатоля Кудраўца, усе апавяданні з якой, дарэчы, папярэдне друкаваліся ў "Вясёлцы".

**А. Бадак.** Гэта яшчэ раз пацвярджае, што дзіцячая літаратура павінна быць цікавай і для дарослых.

**У. Ліпскі.** А каб "Вясёлка" не заманіла Анатоля Кудраўца да супрацоўніцтва, і не нарадзілася б гэта кніжка. Таксама выдаў сваю кніжку для малых чытачоў Іван Шамякін, які стаў нашым аўтарам. Піша нам, хаця і рэдка, Віктар Карамазаў. Абяцаюць — Алесь Жук, Віктар Казько.

**А. Бадак.** Ну а калі хтосьці напіша аб'ёмную аповесць-казку, дзе яе надрукаваць? Ні "Вясёлка", ні "Бярозка" твор такога жанру не надрукуюць, няхай ён і вельмі добры. Застаецца толькі спадзявацца на выдавецтва, але там таксама свае праблемы. Раіса Баравікова прапаноўвае праводзіць конкурсы на лепшую казку ці кніжку для дзяцей па тыпу тых, што ладзіць Міністэрства культуры на лепшую п'есу . Гэта магло б зрабіць Міністэрства адукацыі.

*(Працяг на стар. 14—15)*

# Усмешкі з чорнай восені

Ніл ГІЛЕВІЧ



## У рэспубліцы "зайчыкаў"

*У рэспубліцы "зайчыкаў",*
*Экзатычнай краіне,*
*Летапісцы ад роспачы*
*Лямант-крык паднялі:*
*"Схамяніцеся, зайчыкі!*
*Мова родная гіне!*
*Мова! Кроў жыватворная*
*Нашай любай зямлі!"*

*І сказалі ім "зайчыкі":*
*"Вінаваты вы самі,*
*Што да слова да роднага*
*Мы ўжо страцілі смак.*
*Вы не пішаце золатам,*
*Як калісьці пісалі,*
*А крамзоліце крэйдаю*
*Абы-што й абы-як.*

*Калі вунь у Танзаніі,*
*Або ў той жа Бурундзі,*
*Ці, напрыклад, у Кеніі,*
*Ці ў Рэспубліцы Чад —*
*Твораць чыстыя геніі,*
*А не зломкі, даруйце,*
*Дык і мова там іхняя —*
*Як у квецені сад.*

*А наогул... А ўвогуле...*
*Калі нават і мёртвай*
*Стане мова заечая —*
*Не вяліка бяда..."*
*Так сказалі ім "зайчыкі"*
*І — захрумсталі морквай.*
*О салодкая моркаўка —*
*Незаменка-яда!..*

*Летапісцы галовамі*
*Пахіталі з дакорам:*
*"Ах вы, зайчыкі, зайчыкі!*
*Дзе ваш Бог? Дзе ваш храм?*
*Роднай моваю грэбаваць —*
*Сорам, зайчыкі, сорам!*
*Ну, а моркаўкі... моркаўкі*
*Дайце трошкі і нам!.."*

## Апазіцыю папаўняе Моця

*У чорным даўжэзным пальто,*
*Шырокага вольнага крою,*
*З шыкоўнага вылез аўто*
*Банкір апаўдзённай парою.*

*Са стрыжкай амаль пад качан,*
*З патыліцай голенай, гладкай,*
*Магутна плячмі пакачаў,*
*Як волат-барэц перад схваткай.*

*Тут Моця і ўспыхнула ўся,*
*Агнём загарэліся зрэнкі.*
*"Вось гэткага б мне карася*
*Падцяць на кручок без мітрэнгі!*

*Ах, як жа ж бы я пажыла!*
*Як пышна б за ім распанела!*
*Якіх бы вінцоў папіла!*
*Якіх бы тартоў папаела!.."*

*Ды Моцю не ўважыў "карась":*
*Пагардліва глянуў — і міма.*
*Ступіў на прыступкі і ўраз*
*Прапаў за шклянымі дзвярыма.*

*Пагарда ў кантэксце такім*
*Страшэнна абразіла Моцю.*
*"Чакай жа, зладзюга банкір!*
*Мы возьмем сваё сіламоццю!*

*Вось заўтра ж пайду і ўступлю*
*У партыю левых марксістых*
*І ўсім вам вайну аб'яўлю —*
*Сучасным буржуям фарсістым!"*

*Адчуўшы, што сэрца да дна*
*Ёй гневам святым апаліла,*
*Зайшла на базарчык яна*
*І пражаных семак купіла.*

*Кідала па каліўцу ў рот,*
*Адно за адным без запінкі,*
*І сплёўвала злосна штокрок*
*На шэры асфальт шалупінкі.*

## Слёзная просьба да слыннага, каб не забіваў знакамітага

Прачытаўшы "Народную волю" за 11.8 і 20.9 г.г.

*Бізнесовы мільярдэр-паэт*
*(А мільярднікі*
*не хлусяць дробязна)*
*Навіну праз друк пусціў у свет,*
*Ад якое многім стала боязна:*
*"Кампазітар Лучанок кіпіць*
*Прагай помсты і шукае кілера,*
*Каб "укопсаць",*
*то-ісь, "замачыць"*
*Спевака-артыста Еўдакімава".*

*Я таксама аж аслупянеў:*
*Божа мой!*
*Ды што гэта ў нас робіцца?*
*У музыкі ўспыхнуў гэткі гнеў?*
*Можа, бедалагу нездаровіцца?*
*Чутка абляцела ўсю зямлю.*
*Дзіва што! "Дык вось яно —*
*якія вы!"*
*Лучанок! Я слёзна Вас малю:*
*Вы не забівайце Еўдакімава!*

*Гэта ж талент! Бог яго паслаў,*
*Каб і Вашы акрыляў мелодыі.*
*Тым, чым жывіць душы Яраслаў,*
*Мала хто са спевакоў валодае.*
*А які сабою харашун!*
*Не пачвара-гном і не "кікімара".*
*Лучанок! Я вельмі Вас прашу:*
*Ну не забівайце Еўдакімава!*

*Дайце беднаму яшчэ пажыць,*
*Паспяваць і славаю пацешыцца.*
*Знайце: славай трэба даражыць,*
*Бо інакш абернецца*
*ў пасмешышча.*
*Не крыўдуйце, калі ў жорсткі век*
*Вам чагось фартуна не дакінула.*
*Лучанок! Вы ж добры чалавек!*
*Ну не забівайце Еўдакімава!*

## У электрычцы

*Усеўся я ў вагоне вельмі ўдала:*
*Адзін на лаўцы!*
*І наўпроць — адна.*
*Прыгожая жанчына маладая*
*Спакойна-ціха дрэмле ля вакна.*

*А на каленях — кучаравы пудлік*
*У торбе-сумцы скураной сядзіць*
*І, як надзейны*
*вартаўнік-заступнік,*
*На незнаёмца цэрберам глядзіць.*

*Асвойтаўся я і, без грэшнай думкі,*
*Залюбаваўся паняй пры акне.*
*Які прывабны твар!..*
*І раптам з сумкі*
*Як гаўкнуў пудлік —*
*аж спужаў мяне.*

*Жанчына мігам выйшла*
*з дрыматы*
*І "хулігана" паўшчувала строга:*
*"Ну-ну! За што дзядулю*
*крыўдзіш ты?*
*Няможна, пудлік, гаўкаць*
*на старога!"*

*"Ага, стары! — зацвіліў сабачок*
*І закруціўся ў сумцы,*
*непаседа. —*
*Калі стары — чаму ў яго вачох*
*Такая жарсць?*
*Зусім не як у дзеда!"*

*Прыўстаўшы,*
*ён яшчэ раз гаўкнуў так,*
*Ну не раўнуючы, як пёс ахоўны.*
*І я зрабіў яму рукою знак —*
*Маўляў: "Ну ціха,*
*ну прабач, шаноўны!"*

*Вось так і едзем.*
*Паня дрэмле зноў.*
*А я гляджу ў падлогу.*
*Ці на лаўку.*
*Куды ж яшчэ?*
*Псюк сочыць так за мной,*
*Што сам я зараз на яго —*
*як гаўкну!*

## Гаротнік

*Ой, не пытай, — жыву пагана!*
*Мае дачушка і сынок*
*Ужо забылі смак банана —*
*Ледзь-ледзь хапае на хлябок.*

*Не, мы не жмінды і не скнары,*
*А проста — дзірак не злічыць.*
*Вось пазаўчора на Канары*
*Махнула жонка — адпачыць.*

*Расход панёс я страшна велькі:*
*Да рубялёчка ўсё аддаў,*
*Што за пустыя ўзяў бутэлькі,*
*Якія ў парку назбіраў!*

# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

**БТ**

**Ужо на гэтым тыдні на БТ нас будуць дзівіць прэм'ерамі новых перадач. У суботу — "Вечаровы экспрэс", які з'явіўся замест "Абібока". Вядучая — Таццяна Сулімава, дзіджэй Радыё Рокс. Трэба меркаваць, з яе будуць ляпіць новы зоркавы твар канала. Ларысе Грыбалёвай давядзецца пасунуцца. А ранкам у нядзелю расійская артыстка Алена Якаўлева прадставіць свой "Вялікі сняданак", праграму для хатніх гаспадыняў. У гэты ж дзень паглядзім, ці стала на БТ лепш з гумарам — у эфіры выйдзе "Барахты з бухты".**

**ВЫСТАВЫ**

**Нацыянальны мастацкі музей**

*Да 6 снежня* — Беларускі Фонд культуры разам з прадпрыемствам "Мінскрэстаўрацыя" прадстаўляюць калекцыю адноўленых абразоў 17—18 стагоддзяў. Выстава прысвячаецца 30-годдзю творчай дзейнасці вядомых рэстаўратараў Пятра Журбея і Аркадзя Шпунта.

**Музей сучаснага выяўленчага мастацтва**

*Да 19 лістапада* — выстава Яўгена Харытоненкі (1920—1998).

**Мастацкая галерэя "LaSandr"**

*З 1 па 22 лістапада* — "Пакуль на Беларусі расце трава", выстава жывапісу Уладзіміра Рынкевіча.

**Музей гісторыі беларускай літаратуры**

Тут працуе выстава беларускага шкла. Усяго каля 500 экспанатаў — пацеркі, келіхі, пляшкі. Вырабы са сваіх калекцый прадставілі таксама шклозавод "Нёман" і Барысаўскі крыштальны завод. Узрост вырабаў — ад Х стагоддзя па бягучы год. Гэта ўсё мастацкае шкло — так званае гутнае. Вырабляецца яно ўручную, адмысловыя формы выдзімаюцца з расплаўленай масы.

Гэта на другім паверсе музея, а на першым працуе выстава нямецкага фотамастака Ахіма Вёльфінга пад назваю "Мінск. Горад і людзі". На ягоных здымках — сталіца зусім розная. Тут і Батанічны сад, і твары прадаўцоў і пакупнікоў Камароўкі, і мінская архітэктура ад Траецкага прадмесця да будынка цырка.

**Музей Максіма Багдановіча**

Выстаўка твораў Паўла Пракапцова "Мая Беларусь" (жывапіс, кераміка) *з 3 лістапада па 3 снежня 2000 г.*

**РАМПА**

У Купалаўскім тэатры, які адзначыў у верасні 80-годдзе, на мінулым тыдні пасля 8-месячнага перапынку зноў паказалі "Тутэйшых". Зноў аншлаг, зноў бел-чырвона-белы сцяг напрыканцы спектакля. Цымус сітуацыі ў тым, што на будынку насупраць гайдаецца палотнішча іншых колераў.



*Хто не еў салдацкай кашы?..*

*Фота Ул. КАГУЦЕНКІ*

Марцін КОЎЗКІ

## Доля праўды

— "Мужыцкая праўда" — гэта тое, што трэба, Кастусь, але ці дойдзе яна да людзей? — сумняваліся малаверы...

●

— Добра, Францішак, што надрукаваў першую для краіны кнігу, але што яна можа зрабіць, калі вакол такая цемрадзь? — не хавалі недаверу скептыкі...

●

Сучаснікам цяжка прадбачыць ход падзей і іх наступствы. "На вуліцу Каліноўскага паедзем праспектам Скарыны?" — пытаюцца зараз таксісты.

●

Во здзівіўся нейкі ахламон, угледзеўшы ў вітрыне свой тэлефон. "Нічога дзіўнага, — сказаў прадавец, — столькі каштуе адзін селядзец". Ці не ў кожнай вітрыне бачыць цяпер ахламон нешта падобнае на свой тэлефон.





ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:** Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА, Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Павел ВЕРАБ'ЁЎ — *намеснік галоўнага рэдактара*, Алесь ГАЎРОН — *адказны сакратар*, Мікола ГІЛЬ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Алесь МАРЦІНОВІЧ, Яўген РАГІН, Людміла РУБЛЕЎСКАЯ, Віктар ШНІП — *першы намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**

| | |
|---|---|
| прыёмная рэдакцыі — | 284-8461 |
| намеснікі галоўнага рэдактара — | 284-8525, 284-7985 |
| **АДДЗЕЛЫ:** | |
| публіцыстыкі — | 284-8204 |
| пісьмаў і грамадскай думкі — | 284-7985 |
| літаратурнага жыцця — | 284-8462 |
| крытыкі і бібліяграфіі — | 284-7985 |
| паэзіі і прозы — | 284-8204 |
| музыкі — | 284-8153 |
| тэатра, кіно і тэлебачання — | 284-8153 |
| выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — | 284-8462 |
| навін — | 284-8462 |
| мастацкага афармлення — | 284-8204 |
| фотакарэспандэнт — | 284-8462 |
| бухгалтэрыя — | 284-8462 |

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856
Наклад 2812
Нумар падпісаны ў друк 9.11.2000 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 5907

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12